# ANNA, SOROR...
## раман

Яна нарадзілася ў Нэаплі ў 1575 годзе, па-за таўстымі мурамі форту сьвятога Эльма, у якім ейны бацька быў камэндантам. Дон Альвар, здаўна ўсталяваўшыся на паўвысьпе, знайшоў ласку віцэ-караля, а яшчэ варожасьць народу і кампанскай шляхты, якія дрэнна зносілі злоўжываньні гішпанскага чынавецтва. Ніхто прынамсі не аспрэчваў ягонай непадкупнасьці, ані сапраўднасьці ягонай крыві. Дзякуючы свайму сваяку, кардыналу Маўрыцыю Карафа, ён пабраўся шлюбам з унучкай Агнэс дэ Мантэфэльтро, Валянцінай, апошняй кветкай, на якой выбітны род вычэрпаў семя. Валянціна была прыгожай, сьветлай абліччам, танкявай станам:

ейная дасканаласьць пазбаўляла натхненьня стваральнікаў санэтаў абедзьвюх Сыцыліяў. Дон Альвар, занепакоены небясьпекай, якой гэты цуд пагражаў ягонаму гонару, і натуральным чынам схільны недаверыць жанчынам, навязваў сваёй жонцы амаль затворніцкае існаваньне, і гады Валянціны мінalі
паміж мэлянхалійнымі маёнткамі, якімі валодаў ейны муж у Калябрыі, кляштарам у Іск'і, дзе яна праводзіла Вялікі пост, і маленькімі скляпеністымі пакойчыкамі фартэцыі, дзе ў сутарэннай турме зьнемагалі падазроныя ў гэрэзіі і праціўнікі рэжыму.

Маладая жанчына прыхільна прыняла свой лёс. Ейнае дзяцінства прайшло ва Ўрбіне, у самым рафінаваным з шляхетных атачэньняў, сярод антычных манускрыптаў, разумных размоваў і віёляў д'аморэ. Апошнія вершы мерлага П'етра Бэмба былі складзеныя, каб ушанаваць ейнае блізкае зьяўленьне на сьвет. Маці ейная, ледзьве ачомаўшыся ад родаў, сама завезла яе ў Рым, у кляштар сьвятой Ганны. Блядая кабета з сумнай складкай каля роту ўзяла дзіцёнка ў свае рукі і дабраславіла яго. Гэта была Віторыя Калёна, удавіца Фэрантэ д'Авалоса, які перамог у Павіі,

містычная сяброўка Мікелянджала. Пасталеўшы побач з гэтай аскетычнай музай, яшчэ маладой Валянціна набыла надзвычайную сур'ёзнасьць і спакой тых, хто нават не імкнецца да шчасьця.

Муж, паглынуты амбіцыямі і крызамі рэлігійнай гіпахондрыі, грэбаваў ёю – пакінуў яе з самага нараджэньня сына, іх другога дзіцяці. Ён не замяніў яе жаднай суперніцай, ніколі не меўшы галянтных авантураў пры нэапалітанскім двары, што і склала ягоную рэпутацыю шляхетнай асобы. Схаваўшыся пад маскай, у часіны прыгнечанасьці, калі застаешся сам-насам з сабою, дон Альвар бавіў час з вісьленамі-маўркамі, ласку якіх выгандлёўваў у раёне порту ва ўтрымальніцаў прытонаў, сядзелых пад каганцом альбо каля жароўні. Дона Валянціна ні аб чым не падазравала. Бездакорная жонка, яна ніколі ня мела каханкаў, з абыякавасьцю слухала галантных пэтраркістаў, ніколі ня ўдзельнічала ў інтрыгах, што плялі між сабою розныя палюбоўніцы віцэ-караля, і не вылучала сярод сваіх чаляднiцаў ані наперсьніцаў, ані фаварытак. Дзеля прыстойнасьці яна насіла на прыдворныя сьвяты цудоўныя адзеньні, якія

пасавалі ейнаму веку і ейнаму рангу, аднак не спынялася, каб палюбавацца сабою ў люстра, паправіць складку ці калье. Штовечар дон Альвар знаходзіў на сваім століку сямейныя рахункі, правераныя акуратнай рукой Валянціны. Гэта быў час, калі Сьвяты Столец, кагадзе ўведзены ў Італіі, сачыў за ўсялякім калываньнем сумленьня; Валянціна рупна ўнікала ўсялякай размовы аб веры, а ейная стараннасьць на набажэнствах залічвалася. Ніхто ня ведаў, што ўпотайку яна перадавала бялізну і пітво вязьням у карцар фартэцыі. Пазьней дачка Ганна не змагла прыгадаць, ці жагналася ейная маці, затое часьцяком бачыла яе ў кельлі кляштару Іск'і з "Фэдонам" ці "Банкетам" на каленях, і ейныя прыгожыя рукі, складзеныя на падваконьні расчыненага вакна, у бязьмежных мэдытацыях перад дзівоснай буктай.

Дзеці ейныя шанавалі ў ёй Мадону. Дон Альвар, які меркаваў па хуткім часе паслаць свайго сына ў Гішпанію, зрэдчас настойваў на прысутнасьці маладога чалавека ў чакальні віцэ-караля. Мігель праводзіў гадзіны запар, седзячы каля Ганны ў невялічкім залочаным, нібы нутраны бок кофра, пакоі, дзе

бачыўся вышыты на сьцянах дэвіз Валянціны: *Ut crystallum*[*]. З самага дзяцінства яна навучыла іх чытаць Цыцэрона і Сэнэку: калі яны слухалі гэты мяккі голас, што тлумачыў ім пэўны аргумэнт ці максіму, іх валасы блыталіся па-над кнігамі. Мігель у гэтым узросьце быў вельмі падобным да сваёй сястры; каб ня рукі – далікатныя ў яе, загрубелыя ад карыстаньня повадам і шпагай – у яго, то можна было б пераблытаць іх. Абое дзіцяці, якія любілі адзін адное, шмат маўчалі – ім не патрэбны былі словы, каб цешыцца з таго, што яны былі разам. Дона Валянціна гаварыла мала, дасьведчаная правільным інстынктам тых, хто адчувае сябе любімым, не адчуваючы сябе зразумелым. Яна мела ў шкатулцы калекцыю грэцкіх інталіяў[*], некаторыя зь якіх былі аздобленыя голымі фігуркамі. Часам яна ўздымалася на дзьве прыступкі, якія вялі да глыбокіх амбразураў вокнаў, каб падставіць пад апошнія промні сонца празрыстасьць сарданіксаў, і цалкам загорнутая ў цьмянае злота сутоньня, Валянціна сама

[*] Як горны крышталь (*лац.*).
[*] Разны камень з паглыбленым відарысам.

падавалася празрыстай, як ейныя каштоўныя камяні.

Ганна апускала вочы з сарамлівасьцю, што яшчэ ў пабожных дзяўчатаў праяўляецца падчас сталеньня. Дона Валянціна гаварыла з сваёй няўпэўненай усьмешкай:

– Усё, што прыгожае, асьвятляецца богам.

Яна гаварыла з імі на тасканскай мове, яны адказвалі ёй на гішпанскай.

У жніўні 1595 году дон Альвар абвесьціў, што ягоны сын, да надыходу Калядаў, павінен адправіцца ў Мадрыд, дзе ягоны сваяк, герцаг дэ Мэдына, зрабіў ласку, прыняўшы яго ў якасьці пажа. Ганна ўпотайку плакала, але дзеля гонару трымалася перад братам і маці. Насупор таму, да чаго рыхтаваўся дон Альвар, Валянціна ніяк не запярэчыла адпраўцы Мігеля.

Маркіз дэ ля Сэрна валодаў ад сваёй італійскай сям’і вялікімі маёнткамі, адрэзанымі балотамі, прыбыткі зь якіх паступалі нерэгулярна. Па радзе сваіх інтэндантаў, ён паспрабаваў увесьці на сваёй зямлі ў Акрапалі най-

лепшыя вінаградныя лозы з Аліканты. Поспех быў адносным; дон Альвар ня падаў духам, штогод ён асабіста прысутнічаў на зборы вінаграду. Валянціна і дзеці суправаджалі яго. Аднак сёлета дон Альвар, затрыманы справамі, упрасіў жонку саму даглядзець за маёнткам.

Пераезд доўжыўся тры дні. Рыдван доны Валянціны ў суправаджэньні карэтаў, набітых чаляднікамі, руліў па няроўнай брукаванцы ў бок раўніны Сарна. Дона Ганна сядзела насупраць маці, дон Мігель, не зважаючы на захапленьне коньмі, сеў каля сястры.

Жытло, пабудаванае ў эпоху Анжэвінаў сыцылійскіх, мела выгляд умацаванага замку. На пачатку стагодзьдзя да яго прыбудавалі тынкаваную вапнай забудову, нешта накшталт фэрмы з портыкам, які выходзіў ва ўнутраны дворык, з роўнай кроўляй, на якой сушылася садавіна, і з шэрагам каменных прэсаў. У ім жыў інтэндант са сваёй жонкай і ўсёй дзятвой. Час, нястача рамонтных працаў і непагадзь зрабілі непрыгоднай для жытла вялікую залю, загрувашчаную лішкам гаспадаркі. Груды ўжо зацукраванага ва ўласным соку вінаграду вэдзгалі плітачную падлогу ў

маўрскім стылі і вабілі мухаў; зьвязкі цыбулі віселі пад скляпеньнем; мука высыпалася з мяхоў, прасочваючыся паўсюль разам з пылам; можна было затахнуцца ад паху буйвалавага сыру.

Дона Валянціна і ейныя дзеці ўсталяваліся на другім паверсе. Пакоі брата і сястры знаходзіліся адзін насупроць аднога; праз вузкія, як байніцы, ваконныя рамы яму выпадала бачыць цень Ганны, што сноўдаў пры воблíску маленькага каганца. Яна распускала валасы, шпілька за шпількай, потым выпроствала нагу пакаёўцы, каб тая сьцягнула ейны абутак. Праз прыстойнасьць дон Мігель апускаў фіранкі.

Дні, усе падобныя адзін да аднога, цягнуліся – кожны даўгі, як усё лета. Неба, амаль заўсёды зацягнутае цёплым туманам, што туліўся да раўніны, калывалася ад нізкіх гораў да мора. Валянціна і ейная дачка працавалі ў занядбанай аптэцы, выгатаўляючы лекі, якія яны раздавалі хворым на малярыю. Непрыемнасьці затрымлівалі завяршэньне збору вінаграду: некаторыя працоўныя, паражоныя трасцай, не пакідалі свае ўбогія ложкі; іншыя, выпрастаныя хваробай, гайдаліся ў

марыве, нібы выпітыя. І хоць дона Валянціна са сваімі дзецьмі ніколі аб тым не гаварылі, набліжалы ад’езд Мігеля змрочваў усіх трох.

Увечары, у раптоўнай цьмянасьці сутоньня, яны вячэралі разам у невялікай зале ўнізе. Валянціна, стомленая, клалася рана; Ганна і Мігель заставаліся самі ў цішыні пазіраць адзін на адное, а неўзабаве чуўся выразны голас Валянціны, які клікаў дачку. Тады яны разам уздымаліся па лесьвіцы; дон Мігель, выпрастаны на сваім ложку, лічыў, колькі тыдняў адзьдзяляла яго ад ад’езду. Хоць ён і пакутваў ад гэтага, ён з супакаеньнем адчуваў, што набліжэньне гэтай паездкі ўжо аддаляла яго ад сваіх.

Тым часам выбухнулі хваляваньні ў Калябрыі, дона Валянціна наказвала свайму сыну дужа не аддаляцца ад вёскі і замку. Незадаволенасьць сьпела сярод дробнага люду супраць гішпанскіх афіцэраў і інтэндантаў, асабліва некаторыя мніхі вар’явалі ў сваіх бедных кляштарах, узгрувашчаных на схіле гораў. Найбольш адукаваныя, тыя, хто адвучыўся некалькі год у Ноле ці ў Нэаплі, марылі аб часах, калі гэта краіна была грэцкай зямлёй, поўнай мармуровых статуяў, багоў і

прыгожых аголеных жанчынаў. Найбольш дзёрскія адмаўлялі і клялі бога, гаварылі, што яны ўдзельнічалі ў змовах з турэцкімі піратамі, якія кідалі якар у глыбі буктаў. Распавядалі аб дзіўных блюзьнерствах: аб зьняважаных нагамі вобразах Хрыста і аб просьвірах, якія насілі ў мужчынскіх частках, каб павялічыць плоцевую моц. Аб хеўры мніхаў, якая захапіла і зьняволіла ў кляштары частку вясковай моладзі і намаўляла ім, што Хрыстос фізычна кахаў Магдалену і сьвятога Яна. Валянціна адным словам спыняла балачкі, расказаныя ў інтэнданта альбо на кухне. Мігель мімаволі часьцяком думаў аб гэтым, потым выганяў думкі з розуму, як пазбаўляюцца поскудзі, узрушаны тым ня менш думкай аб гэтых людзёх, якіх жаданьне заносіла дастаткова далёка, каб адважыцца на ўсё гэта. Ганна баялася Ліха, але часьцяком у маленькай бажніцы перад выявай нязмоглай каля ног Хрыста Магдалены яна ўяўляла, наколькі б ён мог быць пяшчотным, абняўшы таго, каго любіў і, як сьвятая, няма сумневу, жадала быць узьнятай Езусам.

У пэўныя дні, не прымаючы пад увагу забароны доны Валянціны, Мігель уздымаўся

на досьвітку, сам сядлаў свайго каня і кідаўся ў авантуру вельмі далёка ў нізоўі. Зямля ляжала чорнай і голай, нерухомыя буйвалы, што спалі цьмянай масай, былі здалёку падобнымі да блёкаў скалаў, адпалых ад гары; вульканічныя ўзгоркі рабілі ланды ўвалістымі; і заўжды шугаў вялікі вецер. Дон Мігель, пабачыўшы тлустую жыжку, што прасочвалася праз падковы каня, раптоўна спыняў яго на беражку дрыгвы.

Аднойчы, акурат перад самым захадам сонца, ён апынуўся каля стаялай уздоўж мора калянады. Адныя рыфленыя стваліны калёнаў распасьціраліся мэрам велічныя камлі дрэваў, іншыя, выпрастаныя, упоперак павялічаныя ўласным ценем, узьнімаліся ў чырвонае неба. Імжыстае і блядое мора ўгадвалася ззаду. Мігель прывязаў каня да стваліны калёны і пусьціўся хадзіць па руінах, назву якіх ён ня ведаў. Яшчэ ашалелы ад даўгога галёпу ў ландах, ён зьведваў гэтае пачуцьцё лёгкасьці і млявасьці, якое часам зьведваеш у снох. Тым ня менш яму балела галава. Ён прыблізна ведаў, што знаходзіўся ў адным з гэтых гарадоў, дзе жылі мудрацы і паэты, аб якіх ім гаварыла дона Валянціна. Тыя людзі, якія

жылі бяз страху перад пеклам, разяўленым пад іх нагамі, што наведваў часам дона Альвара, таксама вязьня ў пэўнае ступені, што і палонныя форту сьвятога Эльма. Яны тым ня менш мелі свае законы. Нават у тыя часіны, хаўрусы, якія, няма сумневу, падаваліся легітымнымі нашчадкам Адама і Эвы напачатку сьвету, потым пачалі жорстка карацца. Жыў калісьці нейкі Каўнас, які ўнікаў, дзе б ён ні быў, залётаў пяшчотнай Бібліс…Чаму ўздумаў ён аб гэтым Каўнасе, ён, каму яшчэ ніхто не прапаноўваў каханьня? Ён губляўся ў лябірынце зрынутых камянёў. На прыступках таго, што, няма сумневу, было храмам, ён заўважыў дзяўчыну. Ён накіраваўся да яе.

Гэта, магчыма, быў усяго толькі дзіцёнак, але вецер і сонца збаразьнілі ейнае аблічча. Дон Мігель заўважыў ейныя жоўтыя вочы, якія непакоілі яго. Ейныя скура і твар былі шэрымі, як пыл, а ейная спадніца да каленак хавала ногі і голыя ступакі, пастаўленыя на пліты.

– Сястра мая, – сказаў ён, усхваляваны мімаволі гэтай сустрэчай у самоце, – як называецца гэтая мясьціна?

– Я ня маю братоў, – адказала дзяўчына. – Ёсьць шмат назваў, якія лепей ня ведаць. Гэта благое месца.

– Але ты гэтуль пачуваешся добра.

– Бо я ў сябе дома.

Яна склала вусны і выціснула кароткі сьвіст, а вялікім пальцам нагі, нібы падаўшы знак, пацэліла ў шчыліну сярод камней. Вузкая трохкутавая галава зьнячэйку зьявілася з расколіны. Дон Мігель расьціснуў сваім ботам гадзюку.

– Бог даруе мне, – сказаў ён. – Ці ты не вядзьмарка?

– Мой бацька быў заклінальнікам вужакаў, – сказала дзяўчына. – Каб служыць вам. І ён добра зарабляў. Бо гадзюкі, панове, паўзуць паўсюль, без уліку тых, што мы маем у сэрцы.

І толькі цяпер Мігель адчуў, што цішыня напаўнялася шолахамі, шамаценьнямі і сьлізгаценьнем – усялякага кшталту ядавітыя стварэньні паўзьлі ў траве. Беглі мурашы, павукі плялі сеціва паміж калёнамі. І шматлікія жоўтыя, як у дзяўчыны, вочы ўсыпалі зямлю.

Дон Мігель хацеў зрабіць крок назад, але не адважыўся.

– Ідзіце, панове, – сказала дзяўчына. – І памятайце, што поўна вужакаў паўсюль, ня толькі тут.

Дон Мігель вярнуўся позна ў замак Акрапаль. Ён жадаў даведацца ў фэрмэра назвы зруйнаванага гораду, але той нічога ня ведаў нават аб ягоным існаваньні. Затое Мігель даведаўся, што ўвечары дона Ганна, занятая пераборкай садавіны, пабачыла гадзюку ў кошыку. Яна закрычала, прыбеглая чалядніца забіла паўзуна адным ударам камяня.

Гэтай ноччу Мігель сьніў кашмар. Ён спаў з расплюшчанымі вачыма. Аграмасты скарпіён выпаўзаў са сьцяны, потым яшчэ адзін і яшчэ; яны караскаліся ўздоўж сяньніка, а сплеценыя малюнкі, што ўпрыгожвалі коўдру, ператвараліся ў гадзючае кубло. Загарэтыя ногі дзяўчыны стаялі ў ім спакойна, як на ложку з сухіх траваў. Ногі гэтыя рухаліся, танцуючы; Мігель адчуваў, як яны сягаюць па ягоным сэрцы, а з кожным сягам ён бачыў, як яны бялелі, і цяпер яны ўжо краналіся падушкі. Мігель, нахінуты, каб абняць іх, спаз-

наваў ногі Ганны, аголеныя ў хатніх з чорнага саціну тапцях.

Незадоўга перад раніцай ён расчыніў вакно і ўсьперся, каб падыхаць. Слабы сьвежы вецер, што дзьмуў з затокі, ахалодзіў пот. Ваконныя рамы Ганны былі расчыненыя, дон Мігель утаропіўся ў другі бок. Уздоўж сьцяны гналі пасьвіцца статак козіцаў, ён з маньячнаю ўпартасьцю лічыў іх, заблытаўся, адвярнуў галаву. Дона Ганна сядзела на ўслончыку для маленьня. Калі ён уздымаўся, то яму падалося, што ён пабачыў паміж начной кашуляй і сацінам тапця цьмяную блядасьць аголенай нагі. Ганна павітала яго ўсьмешкай.

Ён пайшоў у галерэю ўмыцца. Халода вадзіцы цалкам прабудзіла яго й супакоіла.

Надыйшлі іншыя сны. Уранку ён больш не даваў рады выразна адрозьніваць іх ад рэчаіснасьці. Ён стамляўся з надзеяй лепей саснуць.

Часьцяком на самоце ён накіроўваўся да руінаў. Пабачыўшы калянады, ён паварочваў назад, часам, тым ня менш, зававлены мімаволі ці засаромлены самім сабою, ён заходзіў туды. У траве маленькія яшчаркі перасьлед-

валі адна адную. Ніколі дону Мігелю не трапляліся гадзюкі, ды і дзяўчыны там не было.

Ён пацікавіўся аб ёй. Сяляне ўсе ведалі яе. Ейны бацька, ураджэнец Лючэры, быў сарацынскай расы, ад яго дачка ўспадчыніла шарм, яна хадзіла па вёсках, яе добра прымалі на фэрмах, якія яна пазбаўляла ад поскудзі. Страх суроцаў і, мажліва, невядомы ім самім страх перад мешанай расай маўрскай крыві заміналі шкодзіць гэтай сарацынскай дзяўчыне.

Ён спавядаўся штосуботу ў аднога пустэльніка, чалавека пабожнага і добрай рэпутацыі. Але не спавядаюцца аб падобных снох. Ягонае сумленьне было ў згрызотах, яго зьдзіўляла, што ён ня мог упікнуць сябе ў жаднае хібе. Ён тлумачыў сваё нэрваваньне блізкім ад'ездам у Гішпанію. Аднак ён больш не рыхтаваўся да яго.

Па вяртаньні з адной даўгой паездкі, аднаго дня, калі было вельмі горача, ён сышоў з каня і апусьціўся на калені, каб напіцца з крыніцы. Тонкі струмень пырскаў з баюрыны ў некалькіх кроках ад дарогі; некалькі стромых травінаў буялі вакол гэтай сьве-

жасьці. Дон Мігель выпрастаўся, каб напіцца проста зь зямлі, як жывёла. У хмызьняку пачулася шастаньне, ён ускочыў, пабачыўшы, як зьявілася дзяўчына-сарацынка.

– Га, несапраўдная вужака!

– Будзьце пільнымі, панове, – сказала ўладальніца шарму. – Вада бяжыць, выгінаецца, трымцее і блішчыць, а ейны яд ледзяніць вам сэрца.

– У мяне смага, – сказаў дон Мігель.

Ён быў яшчэ нахінуты дастаткова нізка да баюрыны, створанай крынічкай, каб убачыць у ледзь разгайданай вадзе адлюстраваньне вузкага твару з жоўтымі вачыма. Голас дзяўчыны стаў сьвісьцелым:

– Спадар, – падалося, пачуў ён, – ваша сястра чакае вас тут побач са шклянкай, поўнай чыстай вадзіцы. Вы нап’ецеся разам.

Дон Мігель, хістаючыся, сеў на каня. Дзяўчына зьнікла, і тое, што ён прыняў за яву і словы было ўсяго толькі фантазмам.

Няма сумневу, у яго была трасца. Але, мажліва, трасца дазваляе бачыць і чуць, што іншым разам ня бачыцца і ня чуецца.

Вячэра была змрочнай. Дон Мігель, з утрапёнымі ў абрус вачыма, здаецца, адчуваў

позірк Валянціны, скіраваны на яго. Як заўсёды, яна сілкавалася толькі садавінай, гароднінай і травой, але гэтым вечарам яна падавалася ледзь здатнай паднесьці ежу да сваіх вуснаў. Ганна ж не размаўляла, ані вячэрала.

Дон Мігель, якога палохала думка пайсьці і замкнуцца ў сваім пакоі, прапанаваў выйсьці падыхаць на эсплянаду.

Вецер наляцеў з хуткасьцю сьвятла. Сьпякота парэпала зямлю ў садзе; вузкія бліскучыя баюрыны дрыгвы гасьлі адна за адной, вагнёў у вёсцы нідзе ня было бачна. На густым чарноцьці гораў і раўніны выгіналася сьветлае чарноцьце неба. Неба – дыямэнтавае і крыштальнае – спакваля варочалася вакол полюса. Усе ўтрох, з пазадзёртымі галовамі, глядзелі. Дон Мігель пытаўся ў сябе, якая згубная плянэта ўзыходзіла для яго ў ягоным знаку, які знаходзіўся ў сузор'і Казярога. Ганна, няма сумневу, думала пра бога. Валянціне, мажліва, мроіліся пяялыя нябесныя сфэры Пітагора.

Яна сказала:

– Сяньня ўвечары зямля прыгадвае…

Ейны голас быў звонкім як срэбны звон. Дон Мігель завагаўся, ці ня лепей было б прызнацца ў мітрэнзе сваёй маці. Шукаючы словаў, ён вырашыў, што няма ў чым было прызнавацца.

І потым Ганна была тут.

– Вернемся, – сказала ціха дона Валянціна.

Яны вярталіся. Ганна і Мігель шпацыравалі наперадзе. Ганна наблізілася да брата, ён аддаліўся. Ён, падаецца, баяўся перадаць ёй сваю хваробу.

Дона Валянціна вымушаная была спыняцца некалькі разоў, абапіраючыся рукой на дачку. Яна ўся дрыжэла пад манто.

Яна павольна ўзышла па лесьвіцы. Дабраўшыся на другі паверх, яна ўзгадала, што пакінула звонку, на ўслончыку, сваю насоўку з вэнэцыянскіх карункаў. Дон Мігель спусьціўся яе пашукаць, калі ён вярнуўся, дона Валянціна з дачкой былі ўжо ў сваіх пакоях. Ён перадаў насоўку праз камэрыстку і сышоў, не пацалаваўшы, як звычайна, рукі маці і сястры.

Дон Мігель абаперся на стол, нават не падумаўшы зьняць свой паўкафтан, і бавіў ноч,

спрабуючы думаць. Ягоныя думкі круціліся вакол адной вызначанай кропкі, як пядзенікі круцяцца вакол лямпы; яму не ўдавалася зрабіць іх выразнымі, галоўнае ўсклізала ад яго. Позна ўначы ён задрамаў, але заставаўся дастаткова пільным, каб разумець, што ён ня спаў. Гэтая дзяўчына, мажліва, яна яго зачаравала. Яна не была яму даспадобы. Ганна, напрыклад, была бясконца бялейшая за яе.

На досьвітку пагрукалі. І тады ён заўважыў, што разднела.

Гэта была Ганна, таксама поўнасьцю апранутая. Ён падумаў, што яна ўстала да сонца. Гэты спалоханы твар падаўся дону Мігелю нагэтулькі падобным да свайго, што яму здалося, бы ён пабачыў уласны адбітак у глыбіні люстра.

Сястра сказала яму:

– Нашу маці адолела трасца. Яна там унізе.

Дазволіўшы ёй адвесьці сябе, ён зайшоў да доны Валянціны.

Аканіцы пакою былі зачыненыя. У цэнтры вялікага ложку Мігель ледзьве разгледзеў маці, яна ледзь краталася – хутчэй сшэрхлая, чымся саснулая. Ейнае цела – гарачае на

дотык – калацілася, мэрам балацяны вецер не спыняў дзьмуць на яе. Кабета, якая даглядала дону Валянціну, адвяла іх да вакна.

– Спадарыня здаўна хварэе, – сказала яна ім. – Учора яе адолела такая слабасьць, што мы падумалі, яна пакідае нас. Цяпер ёй лепей, але яна вельмі спакойная, гэта благі знак.

Была нядзеля, таму Мігель зь сястрою пайшлі паслухаць імшу ў замкавую капліцу. Акрапальскі сьвятар, чалавек грубы, часьцяком крыху пад мухай, служыў для іх. Дон Мігель, які шкадаваў, што прапанаваў напярэдадні прагулку на эсплянаду ў вечаровую сьмяротную сьвежасьць, шукаў у Ганнавым абліччы блядасьць, накладзеную трасцай. Некалькі служкаў таксама прысутнічалі на імшы. Ганна аддана малілася.

Яны прычасьціліся. Вусны Ганны напяліся, каб атрымаць камунію. Мігелю прымроілася, што гэты рух надаў ім форму пацалунка, і ён адагнаў гэтую думку, як блюзьнерства.

Вяртаючыся, Ганна сказала яму:

– Трэба было б паехаць па лекара.

Некалькі хвілінаў пазьней ён нёсься ў Салерна.

Моцны вецер і хуткасьць сьцерлі сьляды ягонай бяссоннай ночы. Ён скакаў супраць ветру. Гэта было як ап’яненьне барацьбой супраць праціўніка, які адступаў, усё яшчэ супраціўляючыся. Парывы ветру адкідвалі назад ягоныя страхі, як складкі даўгога манто. Трызьненьні і дрыжыкі ўчорашняга скончыліся, зьнесеныя прылівам маладосьці і сілы. Прыступ ліхаманкі доны Валянціны мог быць усяго толькі часовай крызай. Сяньня ўвечары ён зноў пабачыць прыгожы ціхамірны твар сваёй маці.

Перад самім Салерна ён павёў каня ступою. Ягоныя страхі вярнуліся. Мажліва, гэта была тая сурочная ліхаманка, ад якой можна пазбавіцца, перадаўшы яе іншаму, і ён мімаволі перадаў яе маці.

Ён ня мог адшукаць жытло лекара. Нарэшце, каля дзьвярэй у тупіку яму ўказалі нейкую бедную хаціну, з напалову адарванай і ляпаючай аканіцай. На ягоны грукат у дзьвярны малаточак зьявілася расхлістаная жанчына, якая размахвала рукамі; яна пыта-

лася ў коньніка, што яго сюды прывяло; ён быў вымушаны падрабязна патлумачыць ёй, роўшы, каб быць пачутым. Іншыя кабеты шумліва накінуліся на хворую незнаёмку. Дон Мігель нарэшце пачуў, што мэсэр Франчэска Чычына быў на сьваточнай імшы.

Маладому чалавеку далі зэдлік на вуліцы. Сьваточная імша завяршылася, мэсэр Франчэска Чычына шоў дробнаю ступою ў сваім лекарскім адзеньні, дбайна выбіраючы лепшы брук. Гэта быў маленькі стары, нагэтулькі чысьцюткі, што надаваў новы і неістотны выгляд сваім рэчам, нібы імі ніколі так і не карысталіся. Калі дон Мігель назваўся, той рассыпаўся ў камплімэнтах. Пасьля даўгіх хістаньняў ён пагадзіўся ўзьлезьці на каня ззаду. Аднак спачатку ён папрасіў даць яму падсілкавацца чым-небудзь; служка вынесла яму на парог лусту хлеба, палітага алеем; ён яшчэ доўга абсмоктваў пальцы.

Поўдзень застаў іх пасярод балатоў. Было горача для канца верасьня. Сонца амаль у самым зэніце дурманіла дона Мігеля, мэсэр Франчэска Чычына таксама пачуваўся няёмка.

Крыху далей, каля рэдкага сасоньніку, што акружаў дарогу, конь дона Мігеля адскочыў, убачыўшы гадзюку. Дону Мігелю падалося, што ён пачуў выбух сьмеху, але навокал іх было пуста.

– У вас палахлівы конь, панове, – сказаў лекар, якога гняла цішыня. І ён дадаў, ускрыкнуўшы, каб быць пачутым коньнікам: “Булён з гадзючыны – гэта лекі, якімі ня грэбуюць.”

Жанчыны з трывогаю чакалі лекара. Аднак мэсэр Франчэска Чычына быў нагэтулькі сарамяжлівым, што ягоная прысутнасьць не заўважалася. Ён шмат тлумачыў аб сухім і мокрым кашлі і прапанаваў пусьціць кроў доне Валянціне.

Ад праколваньня пайшло мала крыві. Дону Валянціну яшчэ раз адолела слабасьць, яшчэ горшая, чымся ў першы раз, і ад якой яе ледзьве ачомалі. Ганна папрасіла мэсэра Франчэску Чычына паспрабаваць штонебудзь яшчэ, маленькі лекар прыгнечана прашаптаў:

– Гэта канец.

З вастрынёю слуху паміраючых дона Валянціна павярнула да Ганны свой прыгожы

твар, які яшчэ ўсьміхаўся. Ейным служкам падалося, што яны пачулі, як яна шапянула:

– Нічога не канчаецца.

Жыцьцё ў ёй гасла на вачох. У вялікім з балдахінамі ложку ляжала ейнае хударлявае цела, шчыгульна абцягнутае прасьцінёй, бы фігура з надмагільнага помніку. Маленькі лекар, які сядзеў у закутку, падавалася, баяўся турбаваць Сьмерць. Трэба было прымусіць замаўчаць чаляднiцаў, якія прапаноўвалі лекару дзівосныя лекаваньні: адна з іх гаварыла, аб тым, што неабходна было ўвільгоціць лоб хворай крывёю кагадзе забітага труса. Мігель не аднойчы ўпрошваў сястру пакінуць пакой.

Ганна шмат спадзявалася на алеепамазаньне. Дона Валянціна прыняла яго без усялякіх эмоцыяў. Яна папрасіла, каб да яе прывялі сьвятара, які рассыпаўся шумлівымі настаўленьнямі. Калі ж ён выйшаў, Ганна ў сьлязах села ля ложку.

– Вы нас пакідаеце, спадарыня-мая маці.

– Я бачыла трыццаць дзевяць разоў зіму, – неадчувальна прашаптала Валянціна, – трыццаць дзевяць разоў – лета. Досыць.

– Але мы яшчэ такія маладыя, – сказала Ганна. – Вы не пабачыце, як праславіцца Мігель, а я, вы не пабачыце…

Яна хацела сказаць, што маці не пабачыць яе пабратай, але думка гэта раптам жахнула яе. Яна змоўкла.

– Вы ўжо абое так далёка ад мяне, – сказала ціхім голасам Валянціна.

Усе падумалі, што яна трызьнела. Тым ня менш, яна яшчэ спазнавала іх усіх, бо дала дону Мігелю, таксама схінутаму перад ёю, пацалаваць сваю руку. Яна сказала:

– Што б ні адбылося, не дазваляйце нянавісьці заняць месца паміж вамі.

– Мы любім адзін аднога, – сказала Ганна.

Дона Валянціна заплюшчыла вочы. Потым ледзь чутна:

– Я ведаю гэта.

Падавалася, яна перамагла боль, страх і няўпэўненасьць. І яшчэ яна сказала, толькі невядома, ці то датычылася будучыні ейных дзяцей, ці яна гаварыла аб самой сябе:

– Не хвалюйцеся. Усё добра.

Потым яна змоўкла. Ейная сьмерць без агоніі сталася амаль бясслоўнай. Усё жыцьцё Валянціны было толькі павольным скоў-

званьнем у цішыню. Яна аддавалася бяз бою. Калі дзеці зразумелі, што яна была мёртвай, жаднага зьдзіўленьня не ўмяшалася ў іх скруху. Дона Валянціна была з тых, якая ўражвала пры жыцьці.

Яны вырашылі адвезьці яе ў Нэаплю. Дон Мігель быў вымушаны заняцца труной.

Разьвітальная ноч з нябожчыцай адбылася ў вялікай старой залі, вызваленай ад працоўных прыладаў, мэбляванай толькі кофрамі з раскіданымі масьніцамі. Час і жамяра зрабілі сваю працу з саф’янам абіўкі. Дона Валянціна ляжала паміж чатырох факелаў у сваёй даўгой сукенцы з белага вэлюру. Амаль пагардлівая і такая ж амаль пяшчотная ўсьмешка яшчэ зьбірала зморшчынкі ў кутках вуснаў, ейнае аблічча зь вялікімі, глыбока запалымі павекамі нагадвала абліччы статуяў, якія часам выкопваюць, корпаючыся ў зямлі Вялікай Грэцыі між Кратонам і Мэтапонтай.

Дон Мігель думаў аб дрэнных знаках, што апаноўвалі яго ў апошнія тыдні. Ён узгадаў, што маці доны Валянціны, якая сама па кудзелі паходзіла ад кіпарскіх Люзін’янаў, раптоўна зьявілася вужака як прадвесьце ейнай

сьмерці. Яго гэта крыху суняла. Гэта няшчасьце, якое апраўдвала ягоныя прадчуваньні, надало яму спакой.

Заляцелы ў расчыненыя напята вокны вецер уздрыгануў полымя каганцоў. На ўсходзе ноч яшчэ азмрачала Базілікацкія горы, ад падпалетага кустоўя беглі ссохлыя патокі. Кабеты галасілі жалобныя песьні на нэапалітанскай гаворцы ці калябарскіх дыялектах.

Пачуцьцё бясконцай адзіноты агарнула абаіх дзяцей Валянціны. Ганна паклялася свайму брату ніколі не пакідаць яго. Вярнуўшыся ў свой пакой, каб падрыхтавацца да ад’езду, ён зноў пачаў думаць, што, на шчасьце, недзе на Каляды ён адплыве ў Гішпанію.

Вяртаньне, бясконца больш маруднае за прыезд, доўжылася амаль тыдзень. Ганна і Мігель сядзелі адзін ля аднаго насупраць труны сваёй маці, пастаўленай пасярэдзіне цяжкага рыдвана, які прывез іх з Нэаплі. Служкі ехалі ўсьлед за імі ў карэтах, абцягненых чорным. Ехалі ступою, пакаянныя пешшу суправаджалі рыдван, чытаючы на памяць літаніі са сьвечкамі ў руках.

Яны зьмянялі адзін аднога на кожным этапе. Ноччу, з-за адсутнасьці кляштару, Ганна з сваімі жанчынамі, як маглі, прыстасоўваліся ва ўбогіх прытулках. Калі ў вёсцы не было царквы, труна Валянціны заставалася на пляцу, а жалобнае разьвітаньне адбывалася навокал. Дон Мігель, які спаў як мага менш, праводзіў большую частку начы ў малітвах.

Няспынная, нязвычайна моцная сьпякота засыпала пяском. Ганна падавалася шэрай. Ейныя гладка зачасаныя валасы пакрываліся белым слоем, ня бачна было ані брывей, ані веяк; твары абоіх набывалі тон ссохлай гліны. Пякло ў глотцы, Мігель, баючыся ліхаманкі, выказваўся супраць таго, каб Ганна піла ваду з рэзэрвуараў. Звонку воск прыставаў да рук пакаянных. Гізаваньне мухаў удзень саступала месца начной мітрэнзе, выкліканай паразытамі і камарамі. Каб вочы адпачылі ад бляску дарогі і мільгаценьня сьвечак, Ганна спускала фіранкі рыдвана, Мігель гвалтоўна пратэставаў, сьцьвярджаючы, што можна затохнуцца.

І бясконца іх апаноўвалі жабракі, якія лепяталі малітвы. Дзеці-галасільнікі набліжаліся да васей, рызыкуючы кожную хвіліну быць зачэпленымі коламі, паваленымі, зьнявечанымі ці расьціснутымі. Дон Мігель калі-нікалі кідаў дробязь на шлях у марным спадзеве пазбавіцца ад гэтай дзятвы. Апоўдні вёска была амаль пустой, тады прасоўваліся бы ў міражы. Потым увечары абадраныя сяляне прыносілі, ня маючы кветак, пучкі араматычных траваў. Іх набівалі як маглі ў труну.

Дона Ганна ня плакала, ведаючы, наколькі сьлёзы мітрэнжылі яе брата.

Ён трымаўся ўціснутым у свой кут, як мага далей ад яе, каб даць ёй больш месца. Ганна трымала каля роту маленькую карункавую насоўку. Павольны рух рыдвана і літаніі ідучых са сьвечкамі апускаў іх у нешта накшталт галюцыйнага трызьненьня. У найгоршых мясьцінах дарогі падскокі кідалі іх адзін да аднога. Часам яны трымцелі, пабачыўшы, якваліцца і рэпаецца сьпешна зьбітая акрапальскім стальмахам дамавіна. Па хуткім часе, не зважаючы на дубальтовыя дошкі, прыкры пах прымяшаўся да водару

сухіх траваў. Наляцела мушак. Штораніцы яны абліваліся пахкай вадой.

Чацьвёртага дня апоўдні дона Ганна згубіла прытомнасьць.

Дон Мігель паклікаў адну са служак сястры. Дзяўчына затрымлівалася. Ганна была як сканалая, ён расшнураваў яе, хвалюючыся, ён шукаў месца сэрца, біцьцё намацалася пад ягонымі пальцамі.

Пакаёўка Ганны прыбегла і прынесла араматызаваны воцат. Яна схінулася па-над гаспадыняй, каб намачыць твар. Павярнуўшыся, каб узяць флякон, яна раптоўна прыўстала, прыкмеціўшы дона Мігеля.

– Спадару дрэнна?

Ён стаяў, абапершыся на накрыўку дамавіны, з усё яшчэ дрыжэлымі рукамі і яшчэ больш зьмярцьвелы, чымся ягоная сястра. Ён ня мог гаварыць. Ён адказаў “не” знакам. Улічваючы, што ў задняй частцы рыдвана месца было на тры асобы, Мігель, падумаўшы, што Ганна зможа зноўку згубіць прытомнасьць, наказаў дзяўчыне сесьці каля яе.

Дарога заняла яшчэ два дні. Сьпякота і пыл заставаліся; час ад часу пакаёўка намочвала твар Ганны мокрай анучай. Дон Мігель

безупынку шараваў свае далоні – адну аб адную, нібыта жадаючы пазбавіцца ад чагосьці.

Яны прыбылі ў Нэаплю ў прыцемкі. Народ апускаўся на калені перад труной Валянціны: яе шчыра любілі. Варожыя перашэптваньні ў бок камэнданта форта сьвятога Эльма перамешваліся з журботным лямантам: ворагі рэжыму абвінавачвалі дона Альвара ў тым, што ён паслаў сваю жонку паміраць ад ліхаманкі ў гэты згубны маёнтак.

Хаўтуры былі ўрачыста адзначаныя назаўтра ў гішпанскай бажніцы сьвятога Дамініка. Брат і сястра прысутнічалі там поплеч. Па вяртаньні дон Мігель папрасіў спатканьня са сваім бацькам.

Маркіз дэ ля Сэрна прыняў яго ў сваім кабінэце, за сталом, загрувашчаным справаздачамі фіскалаў, лістамі палітычных вязьняў і затрыманых па прыказе віцэ-караля падазроных. У асноўны абавязак дона Альвара ўваходзіла падаўленьне бунтаў, а часам, пры неабходнасьці, іх правакаваньне, каб лепей разгледзіць агітатараў пад час паліцэйскіх аблаваў. Ягонае чорнае адзеньне было ня толькі

для Валянціны: пасьля сьмерці сына, якога ён меў шмат гадоў таму ад сваёй першай жонкі, гэты верны муж на свой капыл насіў жалобу.

Ён не даведаўся жаднай дэталі аб сьмерці доны Валянціны. Мігель, спасылаючыся на тое, што ў Нэаплі яму станавілася занадта сумна без ягонай маці, запытаў, ці немажліва прысьпешыць ягоны ад’езд у Гішпанію.

Дон Альвар, які працягваў чытаць кагадзе прыбылую з Мадрыду пошту, адказаў, не падняўшы галавы:

– Гэта мне падаецца несвоечасовым, спадар.

Дон Мігель бяз словаў заставаўся тут, мардуючы вусны, таму ён дадаў, каб выправадзіць яго:

– Вы мне аб гэтым яшчэ нагадайце.

Вярнуўшыся да сябе, Мігель, тым ня менш, пачаў некаторую падрыхтоўку да падарожжа. Што да Ганны, яна ўпарадкоўвала рэчы, што належылі ейнай маці. Ёй падавалася, што сыноўская любоў Мігеля перамагла братэрскае сяброўства, яны амаль ня бачыліся, іх блізкасьць, падаецца, памерла з донай Валянцінай. Толькі цяпер яна зразумела зьмену,

выкліканую ў ейным жыцьці гэтым зьнікненьнем.

Аднаго ранку, вяртаючыся з імшы, на лесьвіцы ён сустрэў Ганну. Яна была жудасна сумнай. Яна сказала яму:

– Вось ужо больш за тыдзень, як я ня бачыла вас, мой брат.

Яна працягнула да яго рукі. Гэтая гордая Ганна зьняважалася да словаў:

– На жаль, мой брат, я зусім адна!

Яна прысароміла яго. Яму было сорамна самога сябе. Ён прызнаў, што недастаткова любіў яе.

Яны вярнуліся да іх былога жыцьця.

Ён штораз прыходзіў у другой палове дня, у гадзіну, калі сонца запаўняла пакой. Ён сядаў насупраць яе, Ганна займалася шытвом, але часьцей ейны занятак ляжаў у яе на каленях, між яе млявых рук. Абое маўчалі, праз прыадчыненыя дзьверы чулася супакойваючае гудзеньне калаўроту чалядніцаў.

Яны ня ведалі, чым заняць гадзіны. Яны прадпрынялі новыя чытанкі, але Сэнэка і Плятон больш не чыталіся без артыкуляваньня пяшчотным ротам Валянціны і бязь ейных

камэнтараў з усьмешкай. Мігель нясьцерпна гартаў тамы, прабягаў у іх некалькі радкоў, пераходзіў да іншых, якія пакідаў па хуткім часе. Аднойчы ён знайшоў на стале лацінскую біблію, якую адзін з іх нэапальскіх сваякоў, перацягнуты ў эвангельскую веру, пакінуў Валянціне перад тым, як перабрацца ў Баль ці ў Ангельшчыну. Дон Мігель, разгортваючы кнігу ў розных месцах, як тое робяць, кідаючы жэрабя, чытаў то там, то гэтуль некаторыя радкі. Зьнянацку ён спыніўся, неакуратна паклаў том і, сыходзячы, унёс яго.

Яму карціла замкнуцца ў сябе, каб зноў раскрыць кнігу на старонцы, якую ён пазначыў. Калі ён кончыў чытаць, ён распачаў зноў. Гэта быў пасаж з кнігі Царстваў, дзе размова йшла аб гвалце, учынёным Амном з сваёй сястрой Тамарай. Рэчаіснасьць, якой ён ніколі не адважваўся глядзець у твар, паўстала перад ім. Яна жахнула яго. Ён кінуў біблію падалей у шуфляду. Дона Ганна, якая ладзілася ўпарадкаваць кнігі сваёй маці, патрабавала яе некалькі разоў. Ён заўсёды забываў вярнуць яе. Яна забыла аб ёй.

Яна прыходзіла некалькі разоў у ягоны пакой – у ягоную адсутнасьць. Ён дрыжаў, каб яна не разгарнула кнігу на той старонцы. Калі ён ладзіўся выйсьці, ён рупна замыкаў яе.

Ён чытаў ёй містыкаў: Луіса дэ Леона, Яна ад Крыжа, сьвятую маці Тэрэзу. Аднак гэтыя ўздыхі ўпярэмешку з усхліпваньнямі вымерхвалі іх, палкія словы і хваля любові да бога яшчэ больш расчульвалі Ганну, як паэтаў расчульвае зямное каханьне, хаця, па сутнасьці, гэта амаль адно і тое ж. Гэтыя пераскытыя яшчэ нядаўна выяўленьні пачуцьцяў сьвятымі асобамі, якіх яна ніколі ня ўбачыць, схавалых па-за сьценамі гішпанскіх кляштараў, станавіліся суслам, ад якога яна п’янела. Ейныя крыху закінутая галава, раскрыты рот нагадвалі дону Мігелю млявую нязмушанасьць сьвятых у экстазе, якіх мастакі паказваюць, мэрам да іх дакрануўся бог. Ганна адчувала позірк брата, кінуты на яе, зьбянтэжаная, ня ведаючы чаму, яна выпраствалася на сваім месцы. Прыход служкі прымушаў іх чырванець нібыта змоўнікаў.

Ён станавіўся нязносным. Ён рабіў ёй нязьлічоныя закіды наконт ейнай бязьдзейнась-

ці, ейнага выгляду ці вопраткі. Яна прымала іх, не жалючыся. Ён страшэнна баяўся аголеных, звычайных для патрыцыянак, шыяў. Ганна, каб падабацца яму, затохвалася ў манішках. Ён зацята ганьбіў ейныя слоўныя выяўленьні, яна пачынала імітаваць Мігелеву строгую стрыманасьць. Тады ён спалохаўся, што яна здагадалася аб нечым, ён падкрадня назіраў за ёю. Яна пачувалася шпегаванай, і самыя нязначныя здарэньні выклікалі спрэчкі. Ён больш не ўспрымаў яе як сястру, яна заўважыла гэта і плакала з гэтай нагоды ўсю ноч, пытаючыся ў самой сябе, чым жа яна магла яго пакрыўдзіць.

Часьцяком яны разам адпраўляліся ў Дамініканскую царкву. Трэба было перасячы ўсю Нэаплю; рыдван, поўны ўспамінаў аб хаўтурным вяртаньні, быў нявыцерпным для Мігеля, ён настойваў, каб яна брала з сабою сваю служку Агнэзін. Яна западозрыла яго, што ён закахаўся ў тую. Яна не магла зьнесьці падобнага грамадаваньня. Нахабства гэтай дзяўчыны заўсёды было ёй не даспадобы, і па пэўнае прычыне яна знайшла сродак зволіць сваю служку.

Быў першы тыдзень сьнежня, дон Мігель дастаў свае дарожныя кофры і нават наняў збраяносца для дарогі. Ён падлічваў дні, сілячыся атрымаць асалоду, што яны праляцяць хутка, але заставаўся хутчэй зьнямоглым, чымся сунятым. Сам у сваім пакоі, ён пасіліўся намаляваць у памяці найдрабнюткія рыскі Ганнавага твару, як бы ён тое, няма сумневу, зрабіў, быўшы дастаткова далёка ад яе ў Мадрыдзе. Чым больш ён стараўся, тым цьмяней ён бачыў яе, і немажлівасьць прыгадаць дакладна складку ейных вуснаў, асаблівую форму павека, радзімку ззаду на бялядай руцэ наперад мучыла яго. Тады, апанаваны раптоўнай рашучасьцю, ён заходзіў да Ганны і кідаў на яе позірк, поўны маўклівай ненажэрнасьці. Неяк яна сказала яму:

– Брат мой, калі гэта вандроўка засмучае Вас, то наш бацька ня будзе на ёй настойваць.

Ён нічога не адказваў. Яна лічыла, што ён быў рад зьехаць і, хаця гэта адчуваньне даказвала ёй слабасьць любові, Ганна не была няшчаснай: цяпер яна ведала, што жадная іншая кабета не ўтрымлівала дона Мігеля ў Нэаплі.

Назаўтра каля дзясятай гадзіны ўвечары ён быў выкліканы да дона Альвара.

Мігель не сумняваўся, што размова пойдзе аб пэўных рэкамэндацыях, што датычацца ягонай паездкі. Маркіз дэ ля Сэрна ўсадзіў яго і, узяўшы са стала разгорнуты ліст, працягнуў яго яму.

Ён быў з Мадрыду. Сакрэтны агент камэнданта паведамляў у ім, у асьцярожна прыхаваных словах, аб раптоўнай няміласьці герцага дэ Мэдына. Гэта быў сваяк, да якога Мігель павінен быў паехаць як паж у Кастылію. Мігель спакваля перавярнуў аркушы і моўчкі вярнуў іх. Ягоны бацька сказаў яму:

– Вось Вы і вярнуліся з Гішпаніі.

Дон Мігель, падавалася, быў нагэтулькі ўзрушаны, што гэта прымусіла маркіза дадаць:

– Я ня думаў, што вы так сьпяшаецеся даць волю сваім амбіцыям.

І ён няпэўна паабяцаў – з далікатнай паблажлівасьцю – што паспрабуе кампэнсаваць месца дона Мігеля якім-небудзь іншым варыянтам, таксама годным ягонага нараджэньня. Ён дадаў:

– Братэрская любоў павінна была б вас прымусіць застацца ў Нэаплі.

Дон Мігель узьняў вочы на свайго бацьку. Твар шляхціца быў як заўжды непраглядным. Чаляднік з турбанам на галаве на турэцкі капыл ічыганаў прынёс камэнданту ягонае вечаровае віно. Дон Мігель сышоў.

Знадворку яго ахапіў прыступ шчасьця. Ён паўтараў:

– Бог не захацеў.

Мэрам міжвольнае зьмяненьне лёсу, пазбаўляючы яго ўсялякай адказнасьці, апраўдала яго наперад, ён адчуваў, як ачмурэлы, нечаканую лёгкасьць, што авалодала ягоным жыцьцём. Ён пабег у апартамэнты Ганны, якая ў гэтую гадзіну павінна была быць сама. Ён сам ёй скажа, што застаецца. Яна будзе вельмі ўсьцешанай.

Калідор і вітальня Ганны былі ў сутоньні. Слабы пук сьвятла бачыўся з-пад дзьвярэй. Мігель, падыходзячы, пачуў голас Ганны, якая малілася.

Адразу ён уявіў яе – бялейшую за сваю бялізну і цалкам занятую богам. У велічнай сьпячай фартэцыі гэты роўны і ціхі голас быў адзіным шумам, які ён чуў. Лацінскія словы

чуліся ў цішы, як кроплі халоднай і супакаяльнай залевы. Дон Мігель неўпрыкмет счапіў рукі і далучыўся да гэтай малітвы.

Ганна замоўкла, пук сьвятла пагас, яна, відаць, паклалася. Пакрысе дон Мігель аддаліўся ад дзьвярэй. Нарэшце ён уздумаў, што хто-небудзь з чаляднікаў мог сустрэць яго ў вітальні альбо на пляцоўцы. Ён вярнуўся да сябе.

Шалёная жарсьць авалодала ім. Ягоны хросны бацька, дон Амброзыё Карафа, кагадзе даслаў на ягоны дзевятнаццаты дзень нараджэньня двух дзіўных коней. Ён кінуўся гарцаваць. Пакінуўшы свой пакой, разьмешчаны на адным з донай Ганнай паверсе і ў адным блёку фартэцыі, ён перабраўся ў іншы, супрацьлеглы бок замка, недалёка ад уласных стайняў камэнданта.

Ягоны бацька думаў, што ён шкадуе аб сваіх гішпанскіх праектах. Ганна успрыняла гэты разрыў як зьнявагу. Яна палічыла, што ён падазраваў яе ў чыненьні перашкодаў ад'езду. Яна не адважвалася проста апраўдацца, ейная гордасьць замінала ёй жаліцца, але ейная роспач была ўся навідавоку, і дон Мігель, пры рэдкіх аказіях, калі ён яе сустра-

каў у вялікай зале ці ў кулюарах форту сьвятога Эльма, сурова запытваў у яе, зь якой нагоды яе гняла туга.

Ён сіліўся наведваць двор віцэ-караля. У яго было зусім мала сяброў. Гішпанская няўмольнасьць камэнданта пачынала ўздымаць супраць яго шляхту паўвыспы. Мігель блукаў адзін у гэтым натоўпе, і тлустыя нэапалітанскія вабноты, ажыўлёныя грымам і каштоўнымі камянямі, з аголенымі шыямі пад бляскам жырандоляў, раздражнялі яго сваёй юрлівасьцю, напоўненай пэтраркізмам. Ганна была калі-нікалі абавязаная зьяўляцца на гэтых сьвятах. Ён бачыў яе здалёк, усю ў чорным, клубы жудасна пашыраныя таўшчынёю ахоўніка інфанты: натоўп іх разьдзяляў; гняткі сум валіўся са столяў з гзымсам, і рэшткі жывых былі для яго толькі цьмянымі зданькамі. Ураньні дон Мігель апыньваўся на парозе якой-небудзь гнюснай партовай тавэрны, хворы, азяблы ад холаду, ачмурэлы ад стомы, гэтаксама змрочаны, як і нябёсы перад сьвітанкам.

Падчас адной з сваіх вылазак у кулюары аднаго прытону, ён сустрэў дона Альвара. Ні адзін, ні другі не захацелі раскрыцца. Дон

Альвар, між іншым, насіў маску, як гэта прынята ў такога кшталту ўстановах. У наступныя дні, тым ня менш, калі Мігель сустракаў свайго бацьку ў патайным ходзе форту сьвятога Эльма, яму падавалася, што ён чытаў на гэтым гермэтычна схаваным твары саркастычную ўсьмешку.

Ён паспрабаваў куртызанак. Але наймаладзейшая падалася яму старой як Геродавы грахі, і ён заставаўся, абаперты на нейкі стол, згубленым увесь час у адной і той думцы, аплачваючы выпіўку сустрэлым сябрам, у той час, калі жанчыны тавэрны віселі на ягоным плячы.

Ноччу ў прытоне на вуліцы Таледа, ён сядзеў з лакцямі на нагах, з галоваю паміж рук. Ён глядзеў, як танчыць дзяўчына. Яна была непрыгожай, насупленай, з горкай складкай у закутках вуснаў, уласьцівай тым, хто прыслугоўвае жаданьню іншых. Яна, няма сумневу, мела толькі нейкія там дваццаць год, але нельга было глядзець на гэту нікчэмную плоць, ня ўздумваючы аб незьлічоных абдоймах, якія ўжо выкарысталі яе. Адзін кліент, які чакаў яе наверсе, мажліва

траціў цярплівасьць. Гаспадыня прытону нахінулася праз парэнчы паверха і закрычала:

– Ганна, ты йдзеш?

П’яны ад агіды, ён устаў і выйшаў.

Хутка яму падалося, нібы ён заўважыў, што за ім сачылі. Ён кінуўся ў бакавую вуліцу. Ужо не ўпершыню зьведваў ён адчуваньне, што па пятах ягоных ідзе шпег. Ён пачаў ісьці хутчэй. Уздым да форта сьвятога Эльма быў даўгім і цяжкім. Вяртаючыся, ён пабачыў, як заўсёды, калі ён вяртаўся на золку, што аканіцы Ганны былі прыадчыненыя. Узьняўшыся на эсплянаду, ён павярнуўся і ўздоўж спадзінаў Вамэра заўважыў, як падымаўся ягоны ўласны збраяносец Мэнэгіна д’Ая.

Гэты чалавек, перад тым як перайсьці да яго на службу, доўгі час належыў дону Амброзыё Карафа, які давяраўся яму. Ён паходзіў з досыць прыстойнай сям’і, і, казалі, зьведаў і лепшыя часіны. Ягоны сьмелы выгляд спачатку прыйшоўся даспадобы новаму гаспадару, але вось ужо некалькі тыдняў дон Мігель адчуваў сябе шпегаваным гэтым занадта дасканалым чаляднікам. Ён засьпеў у калідорах замку сакрэтныя шушуканьні

Мэнэгіна д’Аі і жанчынаў сваёй сястры. Нарэшце, двойчы ці тройчы ён бачыў, як той заходзіў да доны Ганны ў суправаджэньні служкі. Нутраныя разьдзіраньні, вымерхваючы ягоны розум, рабілі яго ахвярай падазрэньняў, якія ён сам лічыў гнюснымі. Прыдворныя і тавэрныя прыгоды навучылі яго баяцца небясьпечных жаночых фантазіяў.

Ён падумаў падслухаць пад дзьвярыма. Ягоная фанабэрыя ўзьнялася на дыбкі ад падобнай нізкасьці.

Ганна ў гэтыя дні Масьленкі шчыравала ў малітвах. Яна была папярэджаная Мэнэгінам д’Ая аб паводзінах і ўчынках дона Мігеля. Гэтыя банальныя грахі ёй падаваліся яшчэ больш брыдаснымі з-за таго, што зьдзейсьнены яны ейным братам. Тое, што яна ўяўляла, кідала яе ў роспач. І штодня яна зьбіралася пагаварыць з ім аб гэтым.

Аднаго ранку, калі ён рыхтаваўся пайсьці на імшу, ён пабачыў, як яна зайшла ў ягоны пакой. Яна спынілася, зьбітая з тропу, убачыўшы, што ён не адзін. Мэнэгіна д’Ая быў каля вакна, заняты папраўкай вупражы. Мігель сказаў Ганне, паказаўшы ёй на гэтага чалавека:

– Вы шукаеце яго?

Дона Ганна зьбялела, іх цішыня на дваіх зацягнулася б яшчэ на шмат, калі б не ўмяшаўся чалавек дона Амброзыё Карафа.

– Панове, – сказаў ён, – я схібіў, схаваўшы ад вас праўду. Дона Ганна, якая хвалюецца за вашы паводзіны, папрасіла мяне даглядаць за вамі. Яна ўсё ж-такі ваша старэйшая сястра. Я ня думаю, што вы можаце крыўдаваць на вашу сястру цераз ейную занадта вялікую пяшчоту.

Выраз твару Мігеля вокамгненна зыначыўся, стаў асьветленым. Аднак ягоны гнеў, падаецца, узрос. Ён закрычаў:

– Цудоўна!

І павярнуўшыся да сястры:

– Значыць, каб сачыць за мною, вы завяявалі гэтага чалавека! Уранку, калі я вяртаўся, вы чакалі мяне, як пакінутая каханка. Па якому праву? Ці вы мая ахоўніца? Хіба я ваш сын ці каханак?

Ганна, схаваўшы галаву за сьпінку фатэлі, рыдала. Від сьлёзаў, падаецца, зьмякчыў Мігеля. Ён сказаў Мэнэгіну д’Аі:

– Завядзіце яе ў ейны пакой.

Застаўшыся адзін, ён сеў у фатэлю, якую яна кагадзе пакінула. Ён трыўмфаваў, паўтараючы: “Яна раўнуе”.

Узьняўшыся, ён пайшоў прысесьці перад люстрам датуль, пакуль ягоныя стомленыя ад угляданьня ў сваё ўласнае аблічча вочы не засланіся туманам. Мэнэгіна д’Ая вярнуўся. Дон Мігель заплаціў яму жалаваньне і адаслаў яго бяз словаў.

Вакно ягонага пакоя выходзіла на заднюю частку форту. Нахінулая, яна дамінавала панад старым абходным шляхам, закінутым, але да якога меў доступ камэндант. Крыху далей лесьвіца бастыёну далучалася да яго. Дон Альвар зьяўляўся ў гэтых пакінутых клецях, куды час ад часу прыводзілі згубленых жанчынаў. Часам ноччу адтуль чуўся прыглушаны сьмех зводніцаў і дзяўчынаў. Яны падымаліся: натынкаваныя твары паказваліся ў хістаньні ліхтара, і гэтыя рэчы, што адварочвалі Мігеля, нарэшце адкідалі ягоныя згрызоты, даказваючы яму ўнівэрсальную ўладу плоці.

Некалькі дзён пазьней Ганна, вярнуўшыся да сябе, знайшла біблію доны Валянціны, якую яна так прасіла ў свайго брата. Кніга

была разгорнутая і пакладзеная на стале так, быццам той, хто чытаў яе, спыніўшыся, хацеў пазначыць пасаж. Дона Ганна ўзяла яе, уклала закладку паміж старонак і рупна паставіла яе на паліцу. Назаўтра дон Мігель запытаў у яе, ці кінула яна вока на тыя старонкі. Яна адказала, што не. Ён не адважыўся настаяць.

Ён больш не забараняў сабе знаходзіцца зь ёю побач. Ягонае стаўленьне зьначылася. Ён больш ня гнаў ад сябе алюзіяў, якія вымалёўваліся выразна. Яны былі толькі для яго: цяпер усё, падавалася яму, уяўна суадносілася з ягонай маніяй. Столькі загадак хвалявала Ганну, а яна не давала рады зразумець іх сэнс. Невытлумачальны страх авалодваў ёю перад братам; ён адчуваў, як яна трапятала ад самага нязначнага дотыку ягоных рук. Тады ён аддаляўся. Увечары, вярнуўшыся да сябе, знэрваваны да сьлёзаў, таксама не даруючы сабе ані свайго жаданьня, ані сваіх згрызотаў, ён з жахам думаў, што ж з ім будзе заўтра ў гэткі ж час. Дні, нічога не зьмяніўшы, міналі. Ён палічыў, што яна не жадала разумець. Ён пачынаў ненавідзець яе.

Ён больш не хаваўся ў начных фантазіях. Ён зь нецярплівасьцю чакаў гэтай напаўнеўсьвядомленасьці розуму, які засынаў; з тварам, патанулым у падушках, ён аддаваўся сваім марам. Ад іх прачынаўся зь пякучымі рукамі, зь перакручаным, бы пасьля ліхаманкі, ротам, і яшчэ больш разгублены, чым напярэдадні.

У Чысты чацьвер Ганна паслала запытаць у свайго брата, ці не жадаў ён суправадзіць яе ў паездцы па сямі цэрквах. Ён перадаў, што не. Ганнава карэта чакала яе. Яна паехала адна.

Ён працягнуў сноўдаць па пакоі. Нарэшце, ён больш не вытрываў. Апрануўся і выйшаў.

Ганна ўжо наведала тры царквы. Чацьвёртай павінна была быць Ламбардзкая царква; карэта спынілася на пляцу Мон-Аліве перад нізкім цьвінтаром, каля якога зь віскатам сабраліся нямоглыя жабракі. Дона Ганна мінула нэф і ўвайшла ў капліцу Труны Гасподняй.

Кароль арагонскай Нэаплі быў там з сваімі каханіцамі і паэтамі ў стане жалобы, якая доўжылася вечнасьць. Сем пэрсанажаў з гліны ў чалавечы рост, укленчаныя ці прысе-

лыя проста на пліты, лямантавалі вакол Чалавека-Бога, якому яны паверылі і палюбілі. Кожны з іх быў дакладным партрэтам памерлых амаль сто год таму мужчыны ці жанчыны, і іх засмучаныя выявы, падавалася, енчылі на месцы з часу Укрыжаваньня. Рэшткі фарбаў яшчэ аздаблялі іх: чырвань Хрыстовай крыві абадралася як камякі старой раны. Бруд ад часу, сьвечкі, цьмянае сьвятло капліцы надавалі гэтаму Езусу выгляд жудасна зьмярцьвелы, які павінен быў мець галгоцкі Езус за некалькі гадзінаў да Вялікадня, калі гнілізна спрабавала сваё стварэньне і калі нават самі анёлы пачыналі сумнявацца. Увесь час абнаўлялая гурба тапталася ў вузкай прасторы. Жабракі зьяўляліся поплеч з шляхціцамі, заклапочаныя, бы на хаўтурах, сьвятары прабівалі сабе праход сярод жаўнераў флятыліі з абсіверанымі морам тварамі і шнырамі ад турэцкай шаблі. Дамінуючыя па-над нахінутымі лбамі, іншыя статуі Дзевы Марыі і сьвятых стаялі ў шэраг у нішах, апранутыя, паводле старога правіла, у фіялетавыя вуалі ў гонар гэтай жалобы, якая перасягала ўсе іншыя жалобы.

Расхіналіся перад Ганнай, каб саступіць ёй месца; раты шапталі ейная імя, ейная прыгажосьць і раскоша ейных адзьдзеньняў спынялі на імгненьне перабіраньне пацерак. Кілімчык з чорнага вэлюру склізануў перад ёю, дона Ганна апусьцілася на калені. Схінутая над памерлым з гліны, выпрастаным на плітах, яна пабожна пацалавала раны па бакох цела і прадзёртыя рукі. Ейная вуаль, што спадала на твар, замінала ёй. Крыху ўзьняўшыся, каб адхінуць яе назад, ёй падалося, што нехта глядзеў на яе, і, павярнуўшы галаву праваруч, яна пабачыла дона Мігеля.

Гвалтоўнасьць, з якой ён глядзеў, жахнула яе. Таўшчыня лавы разьдзяляла іх. Ён, як і яна, быў апрануты ў чорнае, а наганяўшы жаху, быў бялей за плоці сьвечак – яна глядзела на гэтую змрочаную статую пад фіялетавымі скульптурамі.

Потым, узгадаўшы, што яна была гэтуль для маленьня, яна зноў нахінулася, каб пацалаваць ногі Хрыста. Нехта нахінуўся над ёй. Яна ведала, што гэта быў ейны брат. Ён сказаў:

– Не.

І ўсё тым жа ціхім голасам:

– Вы знойдзеце мяне на выхадзе.

Ганна нават ня ўздумала не падпарадкавацца яму. Яна ўзьнялася і, праз усю шаргацелую ад літаніяў царкву, выйшла на рог цьвінтара.

Мігель чакаў яе. Абое, – у канцы Вялікага посту, – змагаліся з нэрвовасьцю, што вынікала з даўгога ўстрыманьня. Ён сказаў:

– Спадзяюся, вы нагуляліся ў набожнасьць.

Яна чакала, што ён працягне. Ён сказаў:

– Хіба няма іншых цэркваў, больш спакойных? Ці дастаткова шмат палюбаваліся вамі? Гэта так неабходна – дэманстраваць народу манеру вашых цалаваньняў?

– Мой брат, – сказала Ганна, – вы дужа хворы.

– Вы гэта заўважаеце? – сказаў ён.

І ён запытаў у яе, чаму яна не паехала памаліцца ў час Вялікага тыдня ў кляштар Іск'я. Яна не адважылася сказаць яму, што не пажадала пакінуць яго.

Карэта чакала іх. Яна села ў яе. Ён пайшоў за ёй. Не працягваючы наведваньня іншых цэркваў, яна прыказала, каб іх везьлі ў форт сьвятога Эльма. Яна трымалася ўся напру-

жанай на сваім седзеве, трывожнай і суровай. Дон Мігель, гледзячы на яе, марыў аб згубе прытомнасьці сястры па дарозе з Салерны.

Яны прыбылі. Карэта спынілася каля тайнага ходу. Яны падняліся ў пакой Ганны. Мігель адчуваў, што яна жадае пагаварыць з ім. Адкідваючы вуаль, яна сказала яму:

– Ці ведалі вы, што наш бацька прапанаваў мне шлюб у Сыцыліі?

– Га? – сказаў ён. – З кім?

Яна ціхмяна адказала:

– Вы цудоўна ведаеце, што я не пагаджуся.

Гаворачы аб тым, што яна хацела б адысьці ад гэтага жыцьця, мажліва назаўжды, яна сказала, што пайшла б альбо ў кляштар Іск’і, альбо ў кляштар клярысак у Нэаплі, цудоўны кляштар, які часта наведвала дона Валянціна.

– Вы звар’яцелі? – ускрыкнуў ён.

Ён, падавалася, быў абураны. Ён сказаў:

– І вы будзеце жыць там, залітая сьлязьмі, зморваючыся любоўю да воскавай фігуры? Я вас бачыў толькі што. І я дазволю вам каханка толькі таму, што ён укрыжаваны? Хіба вы сьляпая ці вы хлусіце? Вы думаеце, я саступлю вас богу?

Уся запалоханая, яна адхінулася. Ён паўтарыў некалькі разоў:

– Ніколі!

Ён стаяў прыхілены да сьцяны, адмыкаючы ўжо адной рукой дзьвярыну, каб выйсьці. Нібыта перадсьмяротны хрып запоўніў яго глытку. Ён закрычаў:

– Амнон, Амнон, брат Тамаравы!

Ён выйшаў, гахнуўшы дзьвярыма.

Ганна заставалася сядзець на сваім месцы. Крык, які яна кагадзе пачула яшчэ адбіваўся ў ёй. На розум прыйшлі хісткія расповеды зь сьвятога пісаньня. Ужо ведаючы, што яна зараз прачытае, яна пайшла і ўзяла біблію доны Валянціны, і разгарнула на пазначаным месцы, на пасажы, дзе Амнон гвалціць сваю сястру Тамару. Яна не пайшла далей першых вэрсэтаў. Кніга высклізнула з ейных рук, і павалетая на сьпінку крэсла, агаломшаная ад таго, што столькі часу жыла ў хлусьні, яна слухала, як калацілася ейнае сэрца.

Ёй падавалася, што яно расьцягвалася нагэтулькі, што запоўніла ўсю ейную істоту. Неадольная млявасьць авалодвала ёю. Адчуваючы гэтыя раптоўныя штуршкі, з

прыціснутымі каленямі, яна заставалася засяроджанай на гэтым нутраным калаценьні.

У наступную ноч, лежачы ў ложку бяз сну, Мігелю падалося, што ён нешта пачуў. Ён ня быў у тым упэўнены: то быў хутчэй шум, чымся судрогі нечай прысутнасьці. Зьведаўшы ў думках шмат падобных момантаў, ён сказаў сабе, што яго ліхаманіла, і, спрабуючы суняцца, ён прыгадаў, што дзьверы замкнутыя.

Ён не хацеў уставаць, але выпрастаўся і сеў. Падавалася, што ўсьведамленьне, якое ён меў аб гэтых здарэньнях, сталася больш выразным па меры таго, як яны станавіліся больш мімавольнымі. Упершыню зьведаўшы гэтае паглыбленьне ў самога сябе, ён адчуваў, як пакрысе пазбаўляў свой розум ад усяго, што не было гэтым чаканьнем.

Ён спусьціў ногі на плітку і вельмі асьцярожна ўзьняўся. Інстынктыўна ён стрымаў дыханьне. Ён не хацеў яе напалохаць; ён не хацеў, каб яна даведалася, што ён чуў. Ён баяўся, што яна ўцячэ і яшчэ больш, калі яна застанецца. Падлога з іншага боку парогу скрыгатала крыху пад голымі нагамі. Ён бяз

шуму наблізіўся да дзьвярыны са шматлікімі спыненьнямі, і, нарэшце, абапёрся на створку. Ён адчуў, што яна таксама трымалася за яе; дрыготка іх целаў перадавалася ашалёўцы. Было вельмі цёмна: кожны слухаў у цемры дыханьне жаданьня, падобнага да свайго. Яна не адважвалася папрасіць яго адамкнуць. Каб адважыцца адамкнуць, ён чакаў, каб загаварыла яна. Адчуваньне нечага неадкладнага і непапраўнага ледзяніла яго. Ён жадаў, каб яна адначасова ніколі не прыходзіла і каб, нарэшце, зайшла. Калаценьне ягоных артэрыяў замінала яму слухаць. Ён сказаў:

– Ганна…

Яна не адказала. Пасьпешліва ён спрабаваў адкінуць засаўку. Ягоныя дрыжачыя рукі беспасьпяхова навобмацак шукалі яе. Калі ён адамкнуў, ужо нікога не было на іншым баку парога.

У даўгім скляпеністым калідоры было таксама цёмна, як і ўнутры пакоя. Ён пачуў, як удалечы бёг і зьнікаў прыглушаны лёгкі і імклівы шум голых пят.

Ён доўга чакаў. І больш нічога не пачуў. Кінуўшы дзьверы напята, ён вярнуўся вы-

прастацца на прасьцінах. Сілячыся ўлавіць хаця б самыя нязначныя ўздрыгі ў цішыні, яму пачыналі мроіцца ці то шаргаценьне тканіны, ці то слабое і нясьмелае гуканьне. Мінулі гадзіны. Ненавідзячы сябе за ейную баязьлівасьць, ён суцяшаўся думкай, наколькі яна павінна мучыцца.

Калі разднела, ён узьняўся і пайшоў зачыніць дзьверы. Адзін у пустым пакоі, ён марыў: “Яна была там”.

Адхінутыя коўдры стваралі велічны груд змроку. Ім авалодаў гнеў на самога сябе. Ён паваліўся на сяньнік. Ён курчыўся на ім з крыкам.

Назаўтра Ганна правяла дзень у сваім пакоі. Аканіцы былі зачыненыя. Яна нават не апранулася: чорная даўгая сукня, у якую яе штодня загортвалі ейныя апранальніцы, лунала вакол яе з расьцягнутымі складкамі. Яна наказала, каб ніхто не ўваходзіў. Седзячы, абапершы галаву аб шурпатасьці сьпінкі, яна мучылася бяз сьлёзаў, бяз думак, зьняважаная цалкам тым, што паспрабавала і паспрабавала намарна, і надзвычай вымерханая, каб адчуваць свой боль.

Перад вечарам, тым ня менш, ейныя жанчыны прынесьлі ёй навіны.

Дон Мігель апоўдні заявіўся да свайго бацькі. Спадара адольвалі крызы містычнай жуды, падчас якіх ён адчуваў сябе праклятым. Пад прэсам настойлівасьці Мігеля служкі дазволілі яму, тым ня менш, увайсьці ў каплічку, дзе знаходзіўся дон Альвар, які нецярпліва згарнуў свой малітваслоў.

Дон Мігель абвесьціў яму аб сваім хуткім адплыцьці на адной з гэтых узброеных галераў, каб паляваць на піратаў, якія сустракаліся ад Мальты да Танжэру. На гэтыя караблі, часьцяком дрэнна экіпаваныя ці старыя, экіпаж якіх складаўся з авантурнікаў, а часьцяком з былых піратаў альбо туркаўпераварачэнцаў, на чале нейкага выпадковага капітана, прымаўся заўгодна хто. Дасьведчаныя чаляднікі ня ведалі калі, але ім падавалася, ведалі, што дон Мігель падпісаў кантракт гэтай жа раніцай.

Дон Альвар сказаў яму суха:

– Для шляхціца ў вас дзіўнае ўспрыняцьце сьвету.

Гэты ўдар быў цяжкім. Бачылі, як ён спалатнеў. Ён сказаў свайму сыну:

– Падумайце, панове, у мяне няма іншага спадчыньніка.

Дон Мігель зацята глядзеў у пустэчу. Нешта адчайнае праяўлялася ў гэтым позірку, і хоць жадная цягліца на ягоным твары не задрыжэла, ягоны твар заліваўся сьлязьмі. Тады дон Альвар, падаецца, зразумеў, што люты бой, мажліва даўняга паходжаньня, адбываўся ў душы ягонага сына. Дон Мігель ладзіўся пагаварыць, няма сумневу, адкрыцца. Бацька спыніў яго адным рухам рукі.

– Не, – сказаў ён. – Я мяркую, што вам паслана выпрабаваньне. Я не абавязаны аб ім ведаць. Ніхто ня мае права ўмешвацца паміж сумленьнем і богам. Рабіце тое, што вам падасца найлепшым. Я перапоўнены сваімі грахамі, каб узгрувасьціць на сябе яшчэ вашы беды.

Ён паціснуў руку сыну, два мужчыны ўрачыста абняліся. Дон Мігель выйшаў. Ён зьнік, ён пазьбягаў усіх.

Ганнавы служкі, пабачыўшы, што яна не адказвала ім, пакінулі яе.

Ганна засталася сама. Станавілася зусім цёмна. Гарачыня ў гэты чацьвёрты красавіцкі

дзень была дачаснай і задушлівай. Ганна зноў адчула, як закалацілася ейнае сэрца, яна з жахам заўважыла, што ейная ўчорашняя ліхаманка зноў пачыналася ў той жа час. Яна затохвалася. Яна ўстала.

Яна падышла да балькона, адчыніла аканіцы, каб пусьціць у пакой ноч, і прыхілілася да сьцяны, каб удыхнуць паветра.

Вельмі шырокі балькон быў зьвязаны з некалькімі пакоямі. Дон Мігель сядзеў на ягоным супрацьлеглым баку – на балюстрадзе. Ён не павярнуўся. Дрыжаньне папярэдзіла яго, што яна была тут. Ён не кратнуўся.

Дона Ганна пільна ўглядалася ў цемру. Нябёсы гэтай ноччу ў сьвятую пятніцу, падавалася, зьзялі ад ранаў. Дона Ганна напружвалася ад пакутаў. Яна сказала:

– Чаму вы не забілі мяне, мой брат?

– Я думаў аб гэтым, – сказаў ён. – Я б кахаў вас мёртвай.

Толькі тады ён павярнуўся. Яна заўважыла ў змроку гэты перакручаны твар, які, падавалася, разьядалі сьлёзы. Словы, якія яна падрыхтавала, спыніліся ў яе на вуснах. Яна

нахінулася па-над ім з маркотным спачуваньнем. Яны абняліся.

Тры дні пазьней у царкве дамініканцаў дон Мігель быў на імшы.

Ён пакінуў форт сьвятога Эльма зь першым пробліскам сьвятла ў панядзелак, які ў народзе завецца Анёльскім Вялікаднем, бо нябесны пасланец неяк распавёў аб ім жанчынам на ўскрайку долу. Там, вышэй, у шэрай фартэцыі нехта правёў яго да парогу пакоя. Разьвітаньні працягваліся ў цішыні. Ён вымушаны быў – вельмі мякка – расчапіць млявыя рукі, што схапіліся за ягоную патыліцу. Ягоны рот яшчэ захоўваў даўкую прысмаку сьлёзаў.

Ён бяз памяці маліўся. За кожнай малітвай наступала другая, яшчэ больш безразважная, штораз новы ўздым прысьпешваў яго да наступнай. Ён адчуваў з ап'янялай млосьцю гэтую палёгку ў целе, якая, падавалася, вызваляла душу. Ён ні аб чым не шкадаваў. Ён дзякаваў богу, што ён не дазволіў зьехаць яму бяз гэтага перадсьмяротнага разьвітальнага прычасьця. Яна ўпрошвала яго, каб ён застаўся, ён зьехаў у назначаны дзень. Гэта

стрыманае перад самім сабою слова ўпэўнівала яго ў сваіх традыцыях гонару, і веліч ягонай ахвяры, падавалася яму, даходзіла да бога. Ягоныя рукі, у якіх ён, каб лепей устрымацца ад усяго, хаваў свой твар, дарылі яму пах мілаванай плоці. Больш нічога не чакаючы ад жыцьця, ён кінуўся да сьмерці, як да неабходнага завяршэньня. І ўпэўнены ў зьдзяйсьненьні сваёй сьмерці, як ён зьдзейсьніў і сваё жыцьцё, ён рыдаў ад шчасьця.

Вернікі ўсталі для прычасьця. Ён не пайшоў за імі. Ён не спавядаўся перад вялікодным прычасьцем; нешта накшталт рэўнасьці замінала яму выдаць свой сакрэт сьвятару. Ён толькі наблізіўся як мага бліжэй да стаялага на другім баку каменнай лавы сьвятара, каб сіла гостыі распаўсюдзілася на яго. Сонечны промень поўз уздоўж аднаго зусім блізкага слупа. Ён прыхіліў шчаку да гэтага гладкага і мяккага, бы чалавечы дотык, каменя. Ён заплюшчваў вочы. Вярнуўся да малітваў.

Ён маліўся не за сябе. Цьмяны інстынкт, атрыманы, мажліва, у спадчыну ад нейкага невядомага альбо вырачанага продка, які змагаўся пад Паўмесяцам, упэўніваў яго, што

кожны чалавек, забіты ў бойцы супраць няверных, абавязкова выратаваны. Сьмерць, у пошуку якой ён адпраўляўся, даравала яму збавеньне. Ён з запалам упрошваў бога ашчадзіць ягоную сястру. Ён не сумняваўся, што бог пагодзіцца. Ён патрабаваў гэта як права. Яму падавалася, што, хаваючы яе за сваю ахвяру, ён возьме яе з сабою ў шчасную вечнасьць. Ён пакінуў яе, але думаў, што не пакідаў. Рана пакутаў спыніла крываточыць. Гэтым ранкам, калі засмучаныя жанчыны пабачылі перад сабою толькі пустую магілу, дон Мігель дэманстраваў сваю ўдзячнасьць жыцьцю, сьмерці і богу.

Нехта паклаў яму на плячук руку. Ён расплюшчыў вочы: гэта быў Фэрнаа Білбаз, капітан карабля, на якім ён адплываў. Разам яны выйшлі з царквы. Знадворку партугальскі авантурыст сказаў, што зацішак затрымліваў адплыцьцё іх галеры, каб ён вяртаўся да сябе, але быў гатовы па мізэрнаму подыху брызу. Дон Мігель узьняўся у форт сьвятога Эльма, але не забыў прывязаць да Ганнавых аканіцаў даўгі шалік, каб чулася яго трапятаньне на вятру.

Назаўтра на золку яны пачулі стракатаньне шоўку. Разьвітаньне і сьлёзы паўтарыліся, падобныя да папярэдніх, прыблізна так, як паўтараецца сон. Але жадны зь іх больш не даваў веры ў бясконцасьць разьвітаньня.

Мінула некалькі тыдняў; у канцы траўня Ганна даведалася, як дон Мігель спаткаў сьмерць.

Карабель пад камандаваньнем Фэрнаа Білбаза сустрэў альжырскага карсара напаўшляху паміж Афрыкай і Сыцыліяй. Пасьля канаНады дайшло да абардажу. Сарацынскі карабель патануў, але перамоглае гішпанскае судна, хоць і згубіўшае кіраваньне, з сарватым такеляжам і паламатай мачтай некалькі дзён блукала, гнатае хвалямі і ветрам. Раптоўны вецер нарэшце выкінуў яго на пясчаны бераг, недалёка ад сыцылійскага мястэчка Католіка. Між тым бальшыня ранетых падчас бойкі мужчынаў ужо былі мёртвымі.

Сяляне з суседняй вёскі, ахопленыя, магчыма, спакусай нажывы, спусьціліся да гэтага аскалабка. Фэрнаа Білбаз наказаў выкапаць могілку і пры дапамозе вікара Католікі пахаваў нябожчыкаў. Дон Альвар меў вялікія

ўладаньні ў гэтай частцы Сыцыліі; калі мясцовы люд пачуў імя дона Мігеля, яны набожна памясьцілі ягонае цела на ноч у царкву Католікі. Потым накіравалі ягоную труну ў Палерму, адкуль яе адвезьлі ў Нэаплю.

Дон Альвар, даведаўшыся аб канцоўцы, толькі і сказаў:

– Гэта была прыгожая сьмерць.

Тым ня менш, яна агаломшыла яго. Ягонага першага сына яшчэ дзіцёнкам унесла палюндра разам з маці за некалькі год да нараджэньня Мігеля. Гэтая дубальтовая жалоба вымусіла дона Альвара пайсьці на новы шлюб, але ён у сваю чаргу атрымаўся яшчэ горшым, калі не намарным. Цяпер, калі Мігель загінуў, ён аплакваў пустыя намаганьні павялічыць і ўмацаваць памер свайго багацьця, якое, хоць і будзе яшчэ прымнажацца, але застанецца па хуткім часе без уладальніка. Ягоныя кроў і імя не пераўжывуць яго. І хоць ён яшчэ поўнасьцю не адвярнуўся ад выкананьня сваіх шляхецкіх абавязкаў, гэтая сьмерць, прыгадаўшы яму аб намарнасьці ўсяго, падштурхоўвала яго кінуцца ў аскетызм альбо ў дэбош.

Цела дона Мігеля, прывезенае ў прыцемкі, было часова памешчана ў невялічкую цэркаўку сьвятога Яна з Мора, недалёка ад порту. Быў чэрвеньскі вечар, злёгку туманны, удушлівы і цёплы. Ганна, прышоўшы, як толькі настала ноч, прыказала, каб адчынілі труну.

Некалькі факелаў асьвячалі царкву. Бачная рана на левым баку дала Ганьне надзею, што ейны брат нядоўга мучыўся. Але хто ведае? Можа, наадварот, ён доўга аганізаваў сярод іншых каналых на зьнесенай палубе карабля. Фэрнаа Білбаз сам ня мог прыгадаць. Два ці тры мніхі чыталі псалмы. Ганна гаварыла сабе, што гэтае цела, напалову раскладзенае, будзе раскладацца і далей паміж гэтых дошак, і яна зайздросьціла гніцьцю. Падыходзілі зачыніць труну. Ганна шукала што-кольвек ад сябе, што мажліва было б пакласьці яму. Яна нават і не падумала прынесьці кветкі. На шыі ў яе была ладанка з гары Кармэль. Мігель у час ад’езду пацалаваў яе некалькі разоў. Яна сарвала і паклала яе на грудзі свайго брата.

Маркіз дэ ля Сэрна, супраць якога людзкая варожасьць толькі працягвала павяліч-

вацца, выказаў асьцярогу, каб не прысутнічаць на перадачы цела ў царкву сьвятога Дамініка, дзе павінны былі адбыцца хаўтуры. Ён зьявіўся пад покрывам ночы без усялякіх цырымоніяў; Ганна паехала зь ім у карэце. Яна выклікала шкадобу ў жанчынаў.

Хаўтуры адбыліся назаўтра ў прысутнасьці ўсяго двара. Укленчаны каля хораў, дон Альвар пільна глядзеў уверх катафалку. Пад гэтым грудам аблямовак і эмблемаў зьнікала форма дамавіны; у галаве шляхціца міналі ўсялякія візіі: неўрадлівыя, як глеба сьеры, шурпатыя, як валасяніца, пакутныя, як *Dies Irae*[*]. Ён глядзеў на гербы, пыхлівасьці радоў, якія толькі існуюць, каб нагадаць кожнай сям'і аб колькасьці памерлых. Сьвет зь ягонымі пыхлівасьцю і асалодамі падаваўся яму шаўковым саванам на касьцяку. Ягоны сын, як і ён, пакаштаваў гэтага попелу. Няма сумневу, дон Мігель быў пракляты. Дон Альвар з рэлігійным страхам думаў, што ён, верагодна, таксама будзе пракляты; яго пры-

---

[*] Той дзень, дзень гневу (*лац.*, пачатак сярэдневяковага царкоўнага гімну, другая частка рэквіему).

водзіла ў роспач думка аб вечных пакараньнях, вынесеных істотам з плоці з-за некалькіх караткіх уздрыгаў радасьці, нават ня шчасьця. Да сына, якога ён мала любіў, ён цяпер адчуваў больш інтымную і містычную крэўную прывязанасьць: тую, якая ўстанаўліваецца паміж людзьмі цераз змрочаную рознасьць памылак, цераз адныя і тыя ж страхі, бойкі, згрызоты сумленьня і намарнасьць.

Ганна была насупраць яго, зь іншага боку нэфа. Дону Альвару гэты зьзялы ад сьлёзаў твар нагадваў твар Мігеля ў тую Вялікую пятніцу, калі ягоны сын прыйшоў абвесьціць яму аб сваім ад’ездзе на парозе сьмерці і, няма сумневу, граху. Старыя прыкметы, што складваліся ў адное ў ягонай галаве, дзікунскі адчай Ганны, уключаючы пэўную трывожную ўнікліваcьць служак, прымусілі яго западозрыць тое, чаго ён не жадаў ведаць. Ён зласьліва глядзеў на Ганну. Гэтая жанчына палохала яго. Ён гаварыў сабе: “Яна забіла яго”.

Непапулярнасьць дона Альвара зьнячэйку павялічылася.

У дона Амброзыё Карафа быў брат Лібэрыё. Гэты малады чалавек, падбухтораны паэтамі і аратарамі Антычнасьці, прысьвяціў сябе службе італійскай айчыне. У хваляваньні, якое настала ўсьлед за сумятнёй у Калябрыі, ён падбухторыў сялянаў супраць падатковага чынавецтва, схаваўся і быў вымушаны бегчы. За ягоную галаву быў прызначаны кошт, усе думалі, што ён у бясьпецы ў адным з замкаў сваёй сям'і, калі раптам даведаліся, што ён кагадзе быў зьняволены ў форце сьвятога Эльма.

Віцэ-кароль адсутнічаў. Дон Амброзыё Карафа прыйшоў да камэнданта, каб упрасіць яго адтэрмінаваць сьмяротную кару. Хросны бацька дона Мігеля сказаў маркізу дэ ля Сэрна:

– Я прашу толькі аб адтэрміноўцы. Я люблю Лібэрыё як сына. Ён таго самага веку, што меў дон Мігель.

Дон Альвар адказаў:

– Мой сын мёртвы.

Дон Амброзыё Карафа зразумеў, што надзея была згубленая. Ён ненавідзеў, але і спачуваў дону Альвару. Ён таксама ня мог не любавацца гэтай непахіснай зацятасьцю. Ён

бы любаваўся ёю яшчэ больш, калі б ведаў, што камэндант падпарадкоўваўся толькі прыказам, дадзеным графам Аліварэсам ужывую, а таму ведаў, што будзе асуджаны.

Празь некалькі гадзінаў даведаліся, што галава Лібэрыё пала. Цяпер дон Альвар адважваўся выходзіць рэдка, у суправаджэньні моцнага эскорту ці схаваны за маскай, позьняй ноччу. Горад прывабліваў яго сваёй пабожнасьцю і асалодай. Яго спазнавалі, у яго шпурлялі камяні. Ён замкнуўся ў форце сьвятога Эльма і больш ня выйшаў. Цытадэль, якую ўзьвялі над Нэаплям як кулак каталіцкага караля, ненавідзеў увесь люд.

Ганна штовечар накіроўвалася ў царкву сьвятога Дамініка. Зацятыя ворагі ейнага бацькі зьлітваліся, калі яна мінала. Яна наказвала адчыніць капліцу і заставалася ў ёй нерухомай і бязь сьлёзаў, забываючы нават маліцца. Вернікі, якія наведвалі царкву ў гэты позьні час, глядзелі на яе праз краты, не асьмельваючыся нават вымавіць ейнае імя праз страх прыцягнуць да сябе ўвагу гэтай формы, падобнай да статуі на магілцы.

Думалі, што яна кінецца ў рэлігію. Яна ніколі нічога ня выказала на гэты конт. Ейнае жыцьцё звонку не зьмянілася, але амаль мніскае правіла вызначала ейныя дні, і яна насіла валасяніцу, каб памятаць пра грэх. Ноччу яна клалася на вузкім ложку з дошак, які наказала памясьціць каля велічнай пасьцелі, дзе яна больш не жадала спаць. Сны будзілі яе, яна была адна. Тады яна вымерхвалася паўтараць сабе, што ўсё гэта таксама мінула як сон, што ў яе больш няма доказаў і што яна абавязкова аб усім забудзе. Каб усё аднавіць, яна паглыблялася ў сваю памяць. Жадная мажлівасьць будучыні не мільгацела ў ёй. Пачуцьцё самоты было нагэтулькі маркотным, што Ганна зноўку сьмела жадала мець надзею, якая ў падобным выпадку напалохала б бальшыню жанчынаў.

Вярнуўся нэапалітанскі віцэ-кароль, граф Аліварэс. Дон Альвар быў выкліканы да яго. Граф сказаў яму без прэамбулаў:

– Вы ведалі, што я вас асуджу.

Дон Альвар нахіліўся. Граф Аліварэс працягнуў:

– Ня думайце, што я дзейнічаю так дзеля ўласных інтарэсаў. Кагадзе ад караля я атрымаў мае адклікальныя лісты, і магутны манарх, няма сумневу, мяне выклікае па хуткім часе.

Ён ня хлусіў. Ён хварэў, апухлы ад вадзянкі. І ён дадаў яшчэ:

– Маркіз дэ Спінола шукае на фляндарскую вайну лейтэнанта, які ведаў бы Нідэрлянды. Раней вы змагаліся ў гэтай правінцыі. Якраз цераз Савою мы накіроўваем канвой людзей з грашыма. Вы павядзеце яго.

Гэта была высылка. Дон Альвар, пакідаючы графа Аліварэса, пацалаваў друзлую руку і задуменна сказаў:

– Усё нічога.

Вярнуўшыся, ён паведаміў Ганне, што яна павінна заняцца хуткім ад’ездам.

Камэндант правёў свае апошнія дні ў Нэаплі, паглыблены ў роздум у картэзіянскім кляштары сьвятога Марціна, фартэцыі малітваў, што знаходзілася побач з ягонай. Ганна распачала вопіс. Надышла чарга пакоя дона Мігеля. Ганна не набліжалася да гэтых дзьвярэй з таго самага дня, калі Мігель шукаў зь

ёю спрэчкі праз збраяносца. Калі яна адамкнула, яе ахапіла слабасьць; той забыты інцыдэнт нанава паўстаў перад ёю. Мігель сіліўся выкрычаць ёй абразы, з чырваньню ад жыцьця і гневу на брунатных шчаках. Пакой, у якім усё яшчэ знаходзілася дарагая вупраж, быў насычаны пахам скуры. Яна гаварыла сабе, і гаворачы гэта, ведала, што падманвала саму сябе, што ў гэты самы момант яшчэ не адбылося нічога непапраўнага і што ўсё яшчэ зможа павярнуцца інакш. Потым адчула слабасьць. Жанчыны адчынілі аканіцы, каб запусьціць паветра. Яна доўга не ачульвалася. Потым яна выйшла.

Камэндант вырашыў праз асьцярожнасьць, што ад'езд адбудзецца да сонца. Ганнавы жанчыны апранулі яе пры сьвятле факелаў. Потым яны спусьціліся з кофрамі. Ганна, застаўшыся адна, выйшла на балькон, каб паглядзець на Нэапаль і затоку ў матавай бялізьне ранку.

Гэта быў дзень пасярод верасьня. Ганна, схіленая на балюстрадзе, шукала вачыма ўнізе, нібы станцыі на шляху, па якіх яна больш ніколі не праедзе, кожную мясьціну, дзе спынілася на імгненьне ейнае жыцьцё.

Спадзістасьць раўніны праваруч хавала ад яе выспу Іск'я, дзе два задуменныя дзіцёнкі разам чыталі па складох старонку з *Банкету*. Дарога з Салерна леваруч гублялася на адлегласьці. Каля порту Ганна пазнала царкву сьвятога Яна ад Мора, дзе яна ў апошні раз далучылася да Мігеля, і зіхоткую на прыступкавых кроўлях тэрасаў званічку сьвятога Дамініка Арагонскага. Калі ейныя пакаёўкі ўзьняліся, яны знайшлі сваю гаспадыню выпрастанай на вялікім неапратаным ложку, прыгнечанай успамінамі.

Рыдван чакаў на дзядзінцы. Яна пакорліва заняла сваё месца ў гэтай карэце, дзе ўжо знаходзіўся ейны бацька. На ўваходзе чаляднікі новага камэнданта, заносячы нейкія спаруды і мэблю, спрачаліся з лёкаямі, якія ад'яжджалі. Запрэжка кратнулася. Перасякаючы амаль пусты ў гэты час горад, Ганна папрасіла, каб на некалькі хвіляў спыніліся ля царквы сьвятога Дамініка, якая кагадзе адчыніла свае дзьверы. Дон Альвар не запярэчыў.

Імгненьні міналі. Маркіз траціў цярплівасьць. Жанчыны, па ягонаму прыказу, увай-

шлі ў царкву, каб упрасіць дону Ганну выйсьці адтуль. Яна неўзабаве зьявілася.

Яна апусьціла вуаль і бяз словаў заняла сваё месца – напятая, абыякавая, безуважная, – як быццам у гэтай капліцы ў якасьці падзячнага прынашэньня яна пакінула сваё сэрца.

Дона Ганна склала для надмагільнай пліты агульнаўжыўную эпітафію. На плінтусе можна было прачытаць:

LUCTU MEO VIVIT

Пасьля па-гішпанску былі падазеныя імя і званьні. Затым унізе:

ANNA DE LA CERNA Y LOS
HERREROS SOROR CAMPANIAE
CAMPOS PRO BATAVORVM CEDANS HOC
POSUIT MONVMENTVM AETERNUM
AETERNI DOLORIS AMORISQVE

Інфанта ў Фляндрыі была ўдзячная спадару дэ Віркену, гетману войска, сабратага на ягоных землях каля Араса, за нядаўна аплачаныя з сваіх уласных сродкаў страшэнна затры-

маныя жалаваньні людзям, і яна ведала, што ейныя ваенныя кіраўнікі цанілі ягоную брутальную сьмеласьць. Аднак гэты француз, вымушаны гаварыць на гішпанскай прыдворнай мове, мэрам на дасьпехі накінулі падманлівае аздабленьне з карункаў, падавалася, нарадзіўся пазбаўленым двайнога аблічча, якому хапала аднаго міргу вока, каб стаць перакіньчыкам. Насамрэч, ніякая вернасьць не зьнітоўвала Эгмона дэ Віркена з гэтымі красамоўнымі італійцамі ці з гэтымі гішпанцамі-выхвалякамі, пазалочанымі жабракамі, часьцяком байструкамі, сапсутая кроў якіх, калі даць яму веры, ня была вартая ягонай. Пазьней ён даў рады б адпомсьціць хітрамудрай абразай тым, хто даў яму адчуць, што ягонае шляхецкае званьне было надазена яму толькі заўчора, а калі б шанец доўга позьніўся ці калі б палітычны брыз падзьмуў з іншага боку, ён бы мог заўсёды перайсьці на французскі бок.

У Брабанце ўвечары, што папярэднічаў іх прыёму ў інфанты, у рыдване, які дастаўляў іх у лягер, герцаг пармскі намаляваў свайму падначаленаму карціну падзеяў. Сем паўночных правінцыяў былі, шчыра кажучы, кан-

чаткова згубленымі; Гішпанія, яшчэ не ачулая ад урагану, які зьнішчыў ейныя караблі, больш не магла забясьпечыць патруляваньне гэтых даўгіх берагоў, дзюны якіх былі пакрытыя столькімі сьмерцямі. У цэнтры, канечне, вернасьць квітнела ў гарадох. Ён прызнаўся, тым ня менш, што было цяжка аплаціць рахункі багатых буржуа з Арасу, купцоў сукном і віном, зь якімі спадар дэ Віркен быў зьвязаны праз сваю маці. Пазыка на каралеўскія патрэбы, дадаў ён, была гонарам, але і добрым узьнёскам на будучыню: суму выплацілі б з наступным вяртаньнем галёнаў. Гетман бяз словаў усьміхнуўся.

Затым умелы італіец між іншым заўважыў, што шлюб з адной з гэтых красуняў, прыбылых з Гішпаніі, якіх інфанта з палітычнай мэтай прапаноўвала выдаць замуж у Фляндрыі, дазволіў бы чалавеку, які ня меў апоры на двор, скарыстацца шанцам усталявацца ля архігерцага і ягонай вялікаснай жонкі. Мала зацікаўленага шлюбам спадара дэ Віркена вабіла тым ня менш ідэя аб цудоўным альянсе. Ён задаволіўся сказаць, што падумае.

Позна пабратая, апранутая з мніскай строгасьцю, інфанта з задавальненьнем утрымлівала сваіх фрэйлінаў у царкоўным змроку. Яна не адмаўлялася ад строяў, якія адпавядалі ейнаму рангу, ані ад дазволеных гульняў, ані ад данінаў павагі з боку адборных і прыстойных кавалераў, якія шукалі добрай па́ры, што ўмацавала б ейную прымірэнчую палітыку. Мажліва, яна зайздросьціла гэтым вясёлым ці поўным дзіцячых сьлёзаў вачам, якія не палохаў выгляд войска, флёта і фартэцыяў. У гэты дзень, седзячы ля вялікага каміну ў дажджлівую другую палову дня, яна мэлянхалійна паглядала на сваіх кампанёнак і думала, якую б прапанаваць на шлюб. Зь ейных вуснаў ліліся словы адданасьці каралеўскай справе і пакоры нябёсам. Маладыя дзяўчыны адхіляліся ад гэтага дапытлівага позірку: тыя, хто мелі каханкаў, баяліся быць вымушанымі пакінуць іх; і Пілар, і Марыяна, і Саледад маліліся, каб толькі выбралі ня іх.

Аднак інфанта павярнулася да апошняй прыбылай з фрэйлінаў. Ганна дэ ля Сэрна, дваццаці пяці год, была і самай дарослай. Яна насіла жалобу са сьмерці свайго брата, забітага тры гады раней на службе ў караля, і

раскоша тканінаў надавала нешта ўрачыстае ейнай жалобе.

– Я гаварыла з вашым бацькам наконт вашага шлюбу, – сказала інфанта. – Ён пакідае выбар за вамі – альбо ён, альбо кляштар.

Чакалі, што яна выкажацца за закон. Яна зьдзівіла сваіх дружак, сказаўшы амаль ціха:

– Маю мала сымпатыі да шлюбу, мадам, але я і не адчуваю сябе гатовай аддацца богу.

Абвесьцілі аб прыбыцьці кавалера. Інфанта ўзьнялася, каб перайсьці ў суседні пакой. Ганна дэ ля Сэрна павінна была пайсьці ўсьлед. Спадар дэ Віркен, які, дарэчы, любіў толькі мажныя флямандзкія вабноты, быў спакушаны гэтай дзяўчынай, жалоба якой рабіла яе яшчэ больш бялявай і хударлявай. Ганна дэ ля Сэрна хвалявала яго як штандар.

Потым яму нашапаталі, што яна атрымае ад свайго бацькі, маркіза дэ ля Сэрна, велічныя маёнткі ў Італіі. І быццам усё гэтае далёкае багацьце, наколькі б казачным яно ні было, ужо належыла яму, ён напісаў сваёй маці нанава абмэбляваць іх замак у Баікуры.

Маркіз дэ ля Сэрна, зь нядаўняга часу чалец Прыватнай Рады, выпадкова сустрэў

сваю дачку пры двары інфанты, некалькі дзён апасьля заручынаў. Ён відавочна зьведваў адзін з гэтых прыступаў уціхаміраньня, калі ягоны розум зьбіваўся з тропу. Ён сказаў ёй:

– Я больш не сярдую на вас.

Яна зразумела, што ён заўжды сердаваў на яе.

Вясельная імша Ганны адбылася 7 жніўня 1600 году ў Брусэлі, у царкве Саблён, у прысутнасьці інфанты. Пад час ахвяраваньня дароў дона Ганна згубіла прытомнасьць, што было патлумачана гарачынёю, крайняй нязручнасьцю з-за натоўпу, а яшчэ тым, што ейнае цела затохвалася ў срэбным сукне. Дон Альвар, стоячы каля хораў, захаваў на працягу ўсёй даўгой цырымоніі поўны спакой, ацэнены нават ягонымі ганьбавальнікамі: перад тым якраз арыштавалі двух вераадступных кальвіністаў, якія зьбіраліся зарэзаць яго, і цяпер людзі з ягонай сьвіты не маглі ўтрымацца, каб пры самым нязначным шуме не павярнуць галавы назад.

Дон Альвар таксама глядзеў назад, бо ён ні на каліва не спыняў у гэты дзень разважаць аб сваім мінулым. Гэты чалавек, які ня

мог прыгадаць жаднай жывой душы і цела жаднай жывой істоты, якую б ён кахаў, усё больш думаў аб сваім сыне цяпер, калі ён заняў месца ў чарадзе ягоных фантомаў. Галава ягоная слабела, зь ім здараліся містычныя правалы памяці, якія заводзілі яго да ўзьмежжа пякучай краіны бяз колераў, ані формы, дзе з усіх нашых дзеяньняў выжываюць толькі адныя згрызоты сумленьня. Не адважваючыся зазірнуць у нутро Мігелевай памылкі, мажліва, таму, што ён баяўся, каб яна яго дужа не жахнула, ён тым ня менш адчуваў да гэтай жарсьці невядома якую зайздрасьць, якая ўсё зьнішчыла навокал сябе, нават боязь граху. Каханьне дапамагло Мігелю пазьбегчы адзіноты. Ягоны бацька ня зьведаў каханьня й застаўся на самоце аж да канца жыцьця ў гэтым сьвеце бяз бога. Ён зайздросьціў яму асабліва за тое, што ён ужо асуджаны. Ганнавы шлюб адсякаў апошнюю повязь, хоць і мізэрную, што зьнітоўвала яго са сьветам жывых. Амбіцыі былі ўсяго толькі падманам, які больш ня дзейнічаў на яго, покліч плоці сьціхаў з узростам; гэтая сумная перамога прымушала яго зьвярнуцца да душы. Заклапочаны і зьнямоглы, маркіз

прадчуваў, што настаў момант аддацца магутнай жудаснай руцэ, якая, магчыма, палагаднее, калі ён спыніцца змагацца.

Некалькі месяцаў пазьней ён у апошні раз удзельнічаў у Прыватнай Радзе інфанты. Ягоная адстаўка была прынятая бязь цяжкасьцяў. Гэта яго мучыла: ён спадзяваўся, што сьвет даўжэй паспрачаецца за яго з богам.

Эгмон дэ Віркен увёз сваю жонку ў Пікардыю, у свае ўладаньні. У адрозьненьне ад гэтага замежніка, які верыў, што валодаў Ганнай, мэрам валодаюць жанчынай, хоць пры гэтым ня ведаюць прычынаў ейных сьлёзаў, маркіз, насупор злапамятлівасьці, якую ён усё яшчэ адчуваў у дачыненьні да сваёй дачкі, лічыў сябе зьнітаваным зь ёю маўклівай змоваю. Аднак іх разьвітаньне было сухім; мімаволі дон Альвар упікаў яе за тое, што яна жыла; Ганна сама злавалася на няшчасьце, якое не разьбіла яе яшчэ больш. Пагадзіўшыся на мужа, якога яна прынамсі не баялася любіць, яна цешылася, што ягоныя схуднелыя твар, рукі, шыя былі непадобнымі да тых рук, сталых ужо пылам, якія лашчылі яе.

Ваенныя і грашовыя клопаты не дазвалялі спадару дэ Віркену шмат займацца ёю. Занадта фанабэрысты, каб шукаць матывы жаночых фантазіяў, ён ніколі не зьдзіўляўся, што Ганна ў час сьветлага тыдня праводзіла ночы ў малітвах.

У Нэаплі аднаго ліпеньскага вечара 1602 году адзін бедна апрануты чалавек грукаў у дзьверы кляштару сьвятога Марціна. Патаемнае крацістае акенца абачліва адчынілася, і мніх-брамнік спачатку адмовіўся пусьціць чужака ў такую позьнюю гадзіну. Нарэшце, зьдзіўлены камандным тонам, які звычайна не ўласьцівы жабракам, мніх адамкнуў дзьверы і пусьціў незнаёмца. На парозе чалавек павярнуўся. Гэта было імгненьне, калі чырвонае сонца склізае за кляштар камальдулаў. Чалавек моўчкі паглядзеў на блядае мора, на агромністыя курціны форту сьвятога Эльма, абтынкаваныя злотам зьмерканку, а па-над імі байніцы, якія засланялі ад яго порт, на ўспушаны трохкутнік галіёту, які выходзіў з рэйду. Потым раптоўным пацісканьнем плячмі ён нацягнуў сваю шапку на вочы і пайшоў усьлед за гідам па даўгім калідоры. Мінаючы

царкву, якая была новай і багата аздобленай, ён укленчыў на пэўны момант, але заўважыў, што мніх не пакідаў яго вачыма, быццам ён баяўся, што меў справу з рабаўнікам. Абодва нарэшце ўвайшлі ў чакальню, сумежную з рызьніцай. Тады брат зачыніў за чужаком дзьверы, утэркнуў ключ, які павярнуў з скрыгатлівым шумам старога залеза і пайшоў паведаміць супэрыёру.

Чужак, са згубленым, як у малітве, позіркам, доўга чакаў. Пачуўся той самы скрыгат і зьявіўся супэрыёр кляштару сьвятога Марціна дон Амброзыё Карафа. Два мніхі, што суправаджалі яго, спыніліся за парогам. Кожны зь іх нёс сьвечку. Блядыя агні адлюстроўваліся на драўлянай аблямоўцы сьценаў.

Гэта быў мажны чалавек, ужо ў гадох, зь ветлым і спакойным тварам. Чалавек скінуў сваю шляпу, разьвязаў плашч і моўчкі схіліў нагу. Калі ён нахінаў галаву, ягоная шорсткая і шэрая барада ледзьве краналася вэлюру камізэлькі. Вочы на ягоным зморaным твары, які быў адным перапляценьнем цягліцаў, глядзелі проста перад сабою, скрозь супэрыёра, мэрам ён сіліўся ня бачыць гэтага мніха, да

якога, тым ня менш, прыйшоў прасіць нечага.

– Айцец мой, – сказаў ён, – я стары. Жыцьцю больш нічога няма падараваць мне, як толькі сьмерць, і я спадзяюся, што яна будзе лепшай, чым маё жыцьцё. Я прашу вас прыняць мяне да вас як самага простага і апошняга з вашых братоў.

Супэрыёр моўчкі разглядаў гэтага фанабэрыстага ўмольніка. Той, хто гаварыў, быў без біжутэрыі, без каўнера, ані тасьмы, але вакол шыі яшчэ вісела – ці то праз нядбайнасьць, ці то праз пыхлівасьць, – залатое гішпанскае руно. Папярэджаны позіркам супэрыёра, чужынец узьняў руку і сарваў яго.

– Вы шляхціч, – сказаў супэрыёр.

Мужчына адказаў:

– Я ўсё забыў.

Супэрыёр ускалануў галавой:

– Вы багаты.

– Я ўсё аддаў, – сказаў мужчына.

У гэты самы момант усчаўся, расьцягнуўся й сьціх даўгі працяглы крык. Гэта было вітаньне вартавых, шум варты форта сьвятога Эльма, і супэрыёр пабачыў, як уздрыгануўся чужынец ад гэтага нечаканага рэха звонку.

Дон Амброзыё Карафа ўжо даўно спазнаў дона Альвара.

– Вы маркіз дэ ля Сэрна, – сказаў ён.

Дон Альвар ціхмяна адказаў:

– Я быў ім.

– Вы маркіз дэ ля Сэрна, – паўтарыў супэрыёр. – Каб ведалі, што вы ў Нэаплі, то многія, аб чыім існаваньні вы нават і не здагадваецеся, прыйшлі б павітаць вас з нажом. Дзесяць год таму і я б зрабіў таксама. Але ўдар, што атрымаў я ад вас, адкінуў мяне з гэтага сьвету. Цяпер і вы жадаеце пакінуць яго. Здані не вынішчаюць адна адное ў гэтым мірным месцы.

Калі дон Альвар узьняўся, ён дадаў:

– Дон Альвар, вы мой госьць, як і тады, калі я прымаў вас у сваім зялёным кабінэце ў замку Каскатэль.

І тонкая ўсьмешка патрыцыя, напалову зьніклая ў складках, склізанула па твары картэзіянца. Дон Альвар пахмурнеў. Супэрыёр гэта заўважыў.

– Я намарна ўзгадаў мінулае, – сказаў ён. – Вы гэтуль усяго толькі госьць бога.

І тады дон Альвар павярнуўся, каб паглядзець на нешта ў цемры. Яго крыху адолеў

стары страх з жахам перад бязьмежным бяздоньнем. Але муры кляштару абаранялі яго ад пустэчы, а па-за імі яшчэ іншыя муры, яшчэ больш моцныя, што ўзводзіла вакол яго царква. І дон Альвар ведаў, што дзьверы пекла ніколі ня зьнішчаць іх.

Надалей ягонае жыцьцё сталася адным пакаяньнем.

Дон Амброзыё Карафа паводле цыстарцыянскай простасьці захоўваў цягу да мастацтваў, што адрозьнівала яго ў жыцьці. Кляштары былі рэканструяваныя на свае ўласныя грошы ў дакладнай адпаведнасьці з патрабаваньнямі Вітрува, і, каб паспрыяць мэдытаваньню ў духу пабожнага эпікурыйца, кожны пілястар быў упрыгожаны галавою далікатна скульптаванага мерцьвяка. Мажныя рукі супэрыёра рупна правяралі шліфоўку камяня. Гэты патрыцы, для якога рэлігія была, магчыма, усяго толькі завяршэньнем чалавечай мудрасьці, знаходзіў бога ня толькі ў пражылках прыгожага мармуру, але і ў чытанцы *Харміда*. Не парушаючы правіла маўчаньня, яму здаралася, калі якаясь кветка зь ягоных

кветнікаў падавалася яму асабліва чароўнай, паслаць ёй усьмешку.

Дон Альвар тады думаў аб бойцы, што завязваюць пад зямлёю карані ў гэты цёплы пэрыяд руху сокаў, які ператварае кожны венчык у ёмішча нэктарнай асалоды. Незавершаныя канструкцыі, адзін выгляд якіх расчараваў бы аўтара праекту, першапачаткова былі падобныя да руінаў, якімі яны некалі абавязкова стануць; яны нагадвалі яму, што кожны будаўнік урэшце пакіне пасьля сябе адное котлішча. Ад ягоных стомленых імкненьняў яму заставаліся ламоты, нібы пасьля трасцы, і зьдзіўленьне, што параджае пасьля шуму аглушальную цішыню. Аркі скляпеньняў кляштару, якія раздвойвалі кожную арку на супрацьлеглай сьцяне, апоўдні надавалі каменнай калёне пару – ценявую калёну, і чаргавалі чорнае зь белым, як падвойная чарада мніхаў. Дон Амброзыё і дон Альвар віталіся там, праходзячы. Адзін, чытаючы вершы паэта Хіраза, якія тлумачыў яму ў час рымскага амбасадзтва пасланец султана, знаходзіў у кожнае анемоне сьвежую маладосьць Лібэрыё. Сухая зямля, у якой часам выкопвалі дол, нагадвала другому

аб доне Мігеле. Такім парадкам, кожны адрозна чытаў гэтую кнігу стварэньня, якую можна зразумець дваяка; абодва разуменьні слушныя, бо ніхто ня ведае, ці ўсе жывуць, каб памерці, ці ўсе мруць, каб уваскрэснуць.

Гісторыя Ганны стала аднастайнасьцю адной зацягнулай нягоды. Спадар дэ Віркен рана пакінуў гішпанскія землі і вярнуўся ў Францыю, што павялічыла пагарду, якую Ганна мела да яго. Некалькі разоў вайна апустошвала іх землі; трэба было ратаваць, наколькі мажліва, сялянаў, быдла, маёмасьць, аднак гэтыя калектыўныя клопаты не збліжалі іх. З свайго боку муж Ганны не даравыў цесьцю збаёды сваёй фартуны ў дабрачынных фундацыях: амаль казачныя багацьці, праз якія ён, прынамсі часткова, пагадзіўся на гэты альянс, былі ўсяго толькі ўяваю. Паміж Ганнай і ім куртуазнасьць замяняла пяшчоту – пачуцьцё, якое ён не лічыў неабходным у адносінах з жанчынай. Спачатку Ганна гідліва зносіла ягоную начную ўвагу, затым з асалодаю, якую раз-пораз зьведвала яна насупор усяму і якая абмяжоўвалася нізкай і нязначнай часткай ейнай плоці, не ахоплі-

ваючы ўсёй ейнай істоты. У далейшым яна была ўдзячная яму за тое, што ён завёў каханак, якія аддалілі яго ад яе.

Некалькі цяжарнасьцяў, перажытых з пакорай, пакінулі ёй толькі адзін успамін – бязупыннай млосьці. Яна, тым ня менш, любіла сваіх дзяцей, але любоўю жывёльнай, якая згасала, калі яны ўсё менш мелі патрэбу ў ёй. Два хлопчыкі памерлі ў малым узросьце, яна шкадавала асабліва наймалодшага, дзіцячыя рысы якога нагадвалі ёй Мігеля, але з цягам часу гэтае засмучэньне зьнікла. Старэйшы, які выжыў, асоба ваенная і прыдворная, змагаўся з пазыкадаўцамі, якіх пакінуў яму пасьля сябе ягоны бацька, забіты на двубоі ў выніку нейкай незразумелай справы гонару. Ейная дачка была мнішкай у Дуэ. Некалькі месяцаў апасьля сьмерці спадара дэ Віркена сябра нябожчыка, які суправаджаў Ганну д'Арас у Парыж, дзе знаходзіўся ейны сын, скарыстаўся выпадковым прытулкам, каб асадзіць яшчэ маладую ўдавіцу. Вельмі стомленая, каб змагацца, ці, магчыма, заахвочаная сваім уласным целам, Ганна прыняла яго ані з большым, ані з меншым хваляваньнем, чым тым, якое яна зьве-

дала ў сямейным ложку. Пытаньне нават не паўстала, каб даць працяг гэтаму здарэньню; кавалер уехаў і далучыўся да свайго палку ў Нямеччыне; насамрэч, усё гэта ня мела сэнсу. Падчас рэдкага знаходжаньня Ганны ў Луўры, караліца заахвоцілася да гэтай высакароднай гішпанкі, з якой яна знаходзіла асалоду размаўляць на сваёй роднай мове. Але ўдавіца Эгмона дэ Віркена адмовілася ад месца фрэйліны. Француская пампезнасьць і фляндрыйская раскоша пад гэтымі нізкімі нябёсамі ня йшлі ў ніякае параўнаньне з успамінам аб шчасных днях у Нэаплі і ягоным чыстым небе.

З цягам часу самота, стома і нейкае здраньцьвеньне наваліліся на яе. Суцяшэньне сьлязьмі ёй было забаронена, яна марнела ў гэтай чэрствасьці, бы ўнутры нейкай сухой пустэчы. У пэўныя моманты салодкія каліўкі мінулага невытлумачальна ўвіваліся ў сучаснае; яна ня ведала, адкуль яны набягалі: то пэўны жэст доны Валянціны, то завіток лазы вакол шківу старога калодзежа на двары ў Акрапалі, то пальчатка дона Мігеля, кінутая на стале, яшчэ цёплая ад яго рукі. І тады падава-

лася, што дзьмуў лагодны брыз: ад яго яна амаль губляла прытомнасьць. Потым, на працягу даўгіх месяцаў, ёй не хапала паветра. Памінальная малітва, вывучаная на памяць на працягу кожнага вечара сорак год запар, як толькі пачыналася, раптоўна губляла ўсялякі сэнс. Твар каханага зьяўляўся ёй часам у снох, выразны да драбязы – да пушка каля вуснаў; рэшту часу ён ляжаў збуцьвелы ў памяці, як і сам дон Мігель у сваёй могілцы. І тады падавалася ёй, што Мігель ці то існаваў толькі ў ейным уяўленьні, ці то яна прымушала амаль па-блюзнерску мёртвага працягваць жыць. Як іншыя хвастаюць саміх сябе, каб прабудзіць сумленьне, Ганна лупцавала сябе ўласнымі думкамі, каб ажывіць жалобу, але ейны згаслы боль ператвараўся ў зьнямогласьць. Гэта зьмярцьвёнае сэрца адмаўлялася крываточыць.

У шэсьцьдзесят год, пакінуўшы маёнтак свайму сыну, яна ўсталявалася, як пансіянэрка, у кляштары ў Дуэ, дзе ейная дачка была мнішкай. Іншыя шляхетныя дамы таксама завяршалі тут свае жыцьці. Адразу пасьля прыбыцьця Ганны падрыхтавалі адзін пакой для нейкай мадам дэ Барсэль, адной з

каханак, празь якую збанкруціўся Эгмон дэ Віркен. Час, які гэтыя дамы не прысьвячалі малітвам, мінаў у вышываньні, чытанках уголас лістоў ад дзяцей, у падвячорках і гурманскіх вячэрах, што ладзілі яны адна для адной. Размовы круціліся вакол моды ў іх маладосьці, аб уласьцівых добрых якасьцях кожнага з памерлых мужоў, альбо аб сучасных спавядальніках, аб каханках, якімі яны хваліліся, што мелі ці не. Але заўсёды яны павярталіся з брыдаснай і амаль гратэскнай настойлівасьцю да сваіх плоцевых бачных ці прыхаваных хваробаў. Падавалася, што выстаўленьне фізычных заганаў сталася для іх новай формай бессаромнасьці. Пэўная глухаватасьць перашкаджала Ганне чуць іх скаргі і дазваляла ёй устрымлівацца ад размоваў. Кожная мела сваю служку, але здаралася так, што дзяўчаты былі нядбайнымі, або праз пэўную прычыну іх адсылалі, а навіцыятак не заўжды хапала, каб услужыць пансіянэркам. Мадам дэ Барсэль была мажнай і амаль нядужай; Ганна часам дапамагала ёй расчэсваць валасы, а былая прыгажуня калаціла рукамі, калі да яе твару набліжалі люстру. Або яна мізэрна хныкала, бо забылі паставіць перад

ёй ейную бамбаньерку. Тады Ганна зь цяжкасьцю ўздымалася з свайго крэсла, знаходзіла бамбаньерку і дапамагала мадам дэ Барсэль напоўніць рот прысмакамі. Аднойчы старую пансіянэрку, якая вярталася са сталоўкі, званітавала ў калідоры. На той момант жаднай чалядніцы не было побач, Ганна вымыла пліты.

Мнішкі любаваліся ейнай лагоднасьцю да сваёй старой і скандальнай суперніцы, ейнай строгасьцю, ціхамірнасьцю і вытрымкай. Але гэта ня мела нічога агульнага ані з лагоднасьцю, ані са строгасьцю, ані з пакорлівасьцю ці вытрымкай, Ганна па-просту была ня гэтуль.

Яна пачала чытаць містыкаў: Луіса дэ Леона, Яна ад Крыжа, сьвятую маці Тэрэзу – тых самых, што калісьці ёй чытаў у сьвятле паабедзеннага нэапалітанскага сонца малады, цалкам у чорным, вершнік. Кніга заставалася разгорнутай у ваконным прасьвеце; Ганна сядзела пад блядым восеньскім сонцам і час ад часу апускала свае стомленыя вочы ў кнігу. Яна больш не імкнулася разумець сэнс. Гэтыя вялікія палкія фразы складалі частку любоўнай і хаўтурнай музыкі, што суправаджала яе ўсё жыцьцё. Вобразы мінуўшчыны

зноў зіхацелі ў застылай маладосьці, як быццам дона Ганна, у сваім паступовым сыходжаньні, пачала дасягаць месца, дзе ўсе зьбіраюцца разам. Дона Валянціна была недалёка; дон Мігель зьзяў у красе сваіх дваццаці год, ён быў зусім побач. Дваццацігадовая Ганна таксама палала і жыла – усё тая ж, унутры гэтага жаночага патрыманага і састарэлага цела. Час нізка апусьціў свае бар’еры і парваў свае путы. Пяць дзён і пяць начэй гвалтоўнага шчасьця перапаўняліся рэхамі і адбіткамі ва ўсіх кутках вечнасьці.

Ейная агонія была даўгой і пакутлівай. Яна забыла французскую мову; капэлян, які пешыў сябе, што ведае некалькі словаў пагішпанску і крыху кніжнай італійскай мовы, прыходзіў некалькі разоў і зьвяртаўся да яе на адной зь іх. Але каналая ня слухала яго і ледзьве разумела. Сьвятар, хоць яна і ня бачыла яго, працягваў падсоўваць ёй расьпяцьце. У канцы змораны твар Ганны палагаднеў; яна спакваля апусьціла вейкі. Яны пачулі, як яна прашаптала:

– Mi amado[*]…

---

[*] Мой каханы (*гішп.*)

Яны падумалі, што яна зьвярталася да бога. Магчыма, яна зьвярталася, да бога.

# ПАННА З ЛАСТАЎКАМІ

## навэля

Мніх Тэрапіён быў у маладосьці самым адданым пасьлядоўнікам Атанаса Вялікага; ён быў жорсткім, строгім, мяккім толькі да істотаў, у якіх ён не заўважаў прысутнасьці нячысьціка. У Эгіпце ён уваскрашаў і хрысьціў муміі; у Бізантыі ён спавядаў імпэратараў; у Грэцыю прыбыў, бо даверыўся адному сну, з намерам асьвяціць гэтую зямлю, яшчэ падпарадкаваную чарам Пана. Ён успыхваў нянавісьцю ад выгляду сакральных дрэваў, на якія сяляне, хворыя на ліхаманку, чапляюць анучкі, вінныя трапятаць ад самага нязначнага подыху вечара; ад фаласаў узьнятых

на палетках, каб прымусіць зямлю нараджаць, і ад гліняных багоў у нішах сьценаў і ў ракавінах крыніцаў. Ён пабудаваў сваімі ўласнымі рукамі вузкую хацінку на берагох Сэфізу, паклапаціўшыся выкарыстаць толькі пасьвяцоныя матэрыялы. Сяляне дзяліліся зь ім сваімі скуднымі харчамі, аднак, хаця гэтыя людзі і былі змардаваныя, блядыя і палыя духам з-за галадоўлі і войнаў, што абрынуліся на іх, Тэрапіёну не прыходзіла ў галаву ўявіць іх годнымі неба. Яны любілі Езуса, сына Марыі, апранутага ў злота, бы ўсходнае сонца, але ж іх упартыя сэрцы заставаліся вернымі баствам, якія жывуць у дрэвах і зьяўляюцца з клекатаньняў вады; штовечару яны пакідалі на плятане, прысьвечанаму німфам, паўмісак малака ад адзінай казы, якая ім засталася; хлапчукі караскаліся ў поўдзень у шаты дрэваў, каб падпільнаваць гэтых жанчынаў а оніксавыя вочы, якія сілкуюцца чаборам і мёдам. Яны былі паўсюль, дзяўчаты гэтай калянай і сухой зямлі, дзе ўсё як толькі ператвараецца ў марыва, адразу ж набывае вобраз і сапраўдную істоту. Знаходзілі сьляды іх крокаў на дне фантанаў, і бялюткасьць іх целаў блыталася здалёку з водбліс-

кам скалаў. Здарылася нават, што адна зьнявечаная німфа выжыла дасюль у дрэнна абгабляванай бэльцы, якая падтрымлівала кроўлю, і ўначы чулі, як яна жалілася альбо сьпявала. Амаль штодня прычараваная быдла гублялася ў гарох. Празь некалькі месяцаў знаходзілі толькі маленькі груд костак. Злыдніцы бралі за руку дзяцей і заводзілі іх танчыць на ўскрай бяздоньня; іх лёгкія ножкі не дакраналіся да зямлі, але бяздоньне хапала цяжкія маленькія целы. Ці аднойчы адзін маленькі хлапчук, што напаў на іх сьлед, спусьціўся захаканым, празяблым ад ліхаманкі, выпіўшы сьмерць з крынічнаю вадою. Пасьля кожнай паразы мніх Тэрапіён паказваў кулака лясам, дзе хаваліся Праклятыя, але вяскоўцы працягвалі шанаваць гэтых нявінных, напаўбачных фэяў, і яны даравалі ім іх ліхія ўчынкі, як даруюць сонцу, якое зьнішчае глузды звар’яцелых, месяцу, які сьсе малако ў заснулых мацерак, ці каханьню, якое прымушае гэтак пакутваць.

Мніх баяўся іх, як зграю ваўчыцаў, а яны мітрэнжылі яго як чарада вісьленаў. Ніколі гэтыя вычварныя прыгажуні не пакідалі яго ў спакоі: уначы ён адчуваў на сваім твары іх

гарачы подых, мэрам напаўпрыручанага зьвера, які загната блукае ў пакоі. Калі ён адпраўляўся праз вёску з прадсьмяротным прычашчэньнем для хворага, ён чуў, як гучаў за ягонымі пяткамі іх наравісты і выразны трушок маладых козіцаў; калі яму траплялася, насупор ягоным высілкам, заснуць у час малітвы, яны прыходзілі, каб гарэзліва пацягаць яго за бараду. Яны не спрабавалі яго спакусіць, бо лічылі яго пачварным, камічным і вельмі старым у ягоных шырокіх адзеньнях мніскага брунатнага покрыва. І, незважаючы на іх зграбнасьць, яны не прабуджалі ў ім ніякага нячыстага жаданьня, бо іх голасьць была гідкай яму, як блядая плоць вусьня ці гладкая скура вужакі. Яны выклікалі тым ня менш у ім выпрабаваньні, бо ён пачынаў сумнявацца ў богавай мудрасьці, які стварыў столькі некарысных і шкодных істотаў, як быццам стварэньне было ўсяго толькі дрэнна згулятай гульнёю, у якой замяшаны і Ён. Уранку вяскоўцы знайшлі свайго мніха занятым спілоўваньнем німфнага плятану, і яны зусім засмуціліся, бо, з аднаго боку, яны баяліся помсты фэяў, якія забяруць з сабою крыніцы, а, з другога боку, гэты плятан кідаў

цень на месца, дзе яны мелі завядзёнку зьбірацца для танцаў. Але яны не зрабілі ніякіх нараканьняў у бок сьвятога чалавека, бо пабаяліся пасварыцца з Бацькам, які на нябёсах, які кіруе дажджом і сонцам. Яны змоўклі і гэтым маўчаньнем ухвалілі намеры мніха Тэрапіёна супраць німфаў.

Цяпер ён выходзіў толькі са скалкамі, схаванымі ў складцы рукава, і ўвечары, падкрадня, калі не заўважаў жаднага селяніна ў апусьцелай вёсцы, падпальваў старую аліву, пашкоджаны камель якой, – падавалася яму, – укрываў багіцаў, ці маладую лускаватую сасьніну, смала якой ліла залатыя сьлёзы. Нейкая голая істота ўцякала з лістоты і сьпяшалася далучыцца да сваіх сябровак, нярухомых удалечы, бы напалоханыя аляніцы, і сьвяты мніх цешыўся з таго, што зьнішчыў адну з апораў ліха. Паўсюль ён выстаўляў крыжы, і маладыя боскія стварэньні адскоквалі, унікалі ценю гэтага кшталту вытанчаный шыбеніцы, пакідаючы навокал асьвячонай вёскі яшчэ большую зону цішыні і самоты. Барацьба працягвалася на першых горных сьцежках, у калючых хмызьняках і горных абвалах, адкуль найцяжэй выгнаць

багоў. Нарэшце, акружаныя малітвай і вогнішчам, змарнелыя з-за адсутнасьці ахвяраваньняў, пазбаўленыя любові з таго моманту, калі людзі вёскі пачалі адварочвацца ад іх, німфы адшукалі прытулак у апусьцелай лагчыне, дзе некалькі цалкам чорных сасьнінаў, узрослых у глінянай глебе, прымушалі ўяўляць вялікіх птахаў, якія зьбіраюць сваімі моцнымі кіпцюрамі чырвоную зямлю, і махаюць ў небе тысячай тонкіх кончыкаў сваіх арліных пер'яў. Крынічкі, што прасочваліся гэтуль пад грудам бязформных камянёў, былі дужа халоднымі, каб прывабіць прачак і пастухоў. Нейкі грот западаў на паўадхоне лагчыны і трапіць туды можна было толькі праз адну адтуліну, дастаткова шырокую, каб праціснуцца аднаму целу. Увесь час німфы хаваліся там па вечарох, калі грамніцы перашкаджалі іх гульням, бо яны баяліся пяруна, як і ўсе зьвяры лесу, і тут таксама яны спалі падчас бязьмесячных начэй. Некаторыя маладыя пастухі распавядалі, што пранікалі ў гэтую пустку, рызыкуючы здароўем і мацатой сваёй юні. Яны бязупынку гаманілі аб пяшчотных, напаўбачных целах у празрыстых прыцемках і шэвэлюрах больш уяўных,

чымся рэальных. Для мніха Тэрапіёна грот, прыхаваны збоку скалы, зьяўляўся мэрам запалым у ягоныя грудзі ракам. Не кратаючыся, ён стаяў перад лагчынай з узьнятымі рукамі гадзінамі запар, упрошваў нябёсы дапамагчы яму зьнішчыць гэтыя небясьпечныя рэштківі расы багоў.

Аднога вечара, адразу пасьля вялікадня, мніх склікаў самых верных і жорсткіх з сваёй паствы, узброіў іх рыдлёўкамі і ліхтарамі, узяў расьпяцьце і павёў іх праз лябірынты лагчынаў у млявае сутоньне, поўнае жыцьцёвай сілы; ён ня мог дачакацца моманту, калі пераменіць сьвет да лепшага ў гэтую чорную ноч. Мніх Тэрапіён спыніўся на парозе гроту і не дазволіў сваім пасьлядоўнікам увайсьці ў яго. Ён баяўся, каб яны ня былі спакушаныя. У непрагляднай немарачы чулася, як хіхікаюць крыніцы. Слабы шум калываўся, мяккі як брыз, у баравінцы; гэта подых саснулых німфаў, якія марылі аб маладосьці сьвету, аб часе, калі чалавека яшчэ не існавала, калі зямля спараджала толькі дрэвы, жывёлаў і багоў. Сяляне запалілі вялікае вогнішча й мніх наказаў ім рашчыніць тынкоўку, звозіць камяні. Зь

першымі праблiскамі сьвітанку яны пачалі будаваць маленькую каплічку збоку лагчыны перад адтулінай праклятага гроту. Сьцены былі вільготныя, кроўля яшчэ ня крытая і не хапала дзьвярэй, але мніх Тэрапіён ведаў, што німфы не паспрабуюць высьлізнуць праз гэтае сьвятое месца, якое ён ужо акропіў і асьвяціў. Для большай пэўнасьці ён узмасьціў у глыбі каплічкі, на тым месцы, дзе разявалася зяпа скалы, вялікага Хрыста, намаляванага на крыжы з чатырма роўнымі канцавінамі. І німфы, якія разумелі толькі ўсьмешкі, адхінуліся ад вусьцішы перад вобразам Пакаранага. Першыя промні сонца сарамяжліва выпраставаліся да парога ў пустку: гэта быў час, калі няшчасныя мелі звычай выходзіць, каб прыняць на лісьцях суседніх дрэваў свой першы сьняданак з расы. Паланіцы рыдалі, упрошвалі мніха прыйсьці ім на дапамогу і ў сваёй наіўнасьці, калі б ён пагадзіўся даць ім уцячы, абяцалі яму любіць яго. Увесь дзень, аж да вечара, працягваліся працы. Сьлёзы падалі з каменьня, чуліся кашаль і сіпатыя крыкі, падобныя да скаргаў параненых жывёлаў. Наступнага дня накрылі кроўлю і яе ўпрыгожылі букетам кветак; ус-

тавілі дзьверы і пракруцілі ў замочнай адтуліне вялізны жалезны ключ. Гэтай ноччу вымерханыя сяляне спусьціліся ў вёску, але мніх Тэрапіён лёг ля каплічкі, якую ён збудаваў, і ўсю ноч енкі ягоных паланіцаў салодка перашкаджалі яму спаць. Ён спачуваў, зьмягчаўся над растаптаным нагамі чарвяком або сьцяблом кветкі, сарванай дотыкам ягонай ра́сы, але ён з усьмешкай мог замураваць паміж дзьвюх сьценаў кубло маладых вужакаў.

Назаўтра сяляне прынесьлі вапнага малака, абмазалі інтэр'ер і надворак каплічкі, якая прыняла тады выгляд белай галубоўні, прымошчанай пасярод скалы. Два вяскоўцы, менш запалоханыя, чымся іншыя, сунуліся ў грот, каб пабяліць ягонае волкае і сітаватае нутро, каб вада крыніцаў і мёд пчолаў не прасочваліся ў нутраны бок прыгожай пячоры і не падтрымлівалі каналае жыцьцё фэяўжанчынаў. Зьнясіленыя німфы ня мелі больш сілаў пратэставаць супраць людзей; ледзьледзь там і гэтуль угадваліся ў прыцемках малады скрыўлены рот, дзьве крохкія складзеныя рукі ці ружовая бляда грудзей. Альбо час ад часу на шурпатасьцях скалы бачыліся іх вялікія, белыя ад вапны, пальцы. Сяляне

чулі, як лускалася мяккая і хісткая шэвэлюра – як тыя папараці, што растуць у волкіх і закінутых мясьцінах. Сканалае цела німфаў ператваралася ў пару, станавілася пылам, як крылы мёртвай мятлушкі. Німфы ўсё яшчэ скавыталі, але трэба было ўслухацца, каб расчуць гэтыя слабыя скаргі; гэта былі душы, якія плакалі.

Усю наступную ноч мніх Тэрапіён працягваў дэманстраваць свае малітоўнае дбаньне на парозе каплічкі, як анакарэт у пустэльні. Ён радаваўся ад думкі, што да новага месяца енкі спыняцца, і што німфы, памёрлыя ад галадоўлі, будуць толькі цьмяным успамінам. Ён маліўся, каб прысьпешыць імгненьне, калі сьмерць вызваліць паланіцаў, бо ён пачынаў – насуперак сабе – шкадаваць іх, і кпіў з гэтай бясслаўнай слабасьці. Ніхто ня прыходзіў да яго; вёска падавалася яму такой далёкай, бы ён знаходзіўся на іншым баку сьвету. Ён аглядаў на супрацьлеглым адхоне лагчыны чырвоную зямлю, сасьніны і сьцежку, напалову схаваную ў залатых іглах. Ён чуў хрыпоты, штораз слабейшыя, і усё больш сіпаты гук сваіх уласных малітваў.

Увечары ён пабачыў на сьцежцы нейкую

кабету, якая накіроўвалася да яго. Яна шпацыравала з ніцай галавой, крыху гарбаватая; ейныя паліто і шалік былі чорнымі, і бляск прабіваўся скрозь цьмяную тканіну, быццам яна насунала ноч на ранак. Хоць яна выглядала вельмі маладой, у ёй была сталасьць, павольнасьць і годнасьць старой кабеты, ейная чароўнасьць была падобная да сьпелае гронкі і духмянае кветкі. Перад капліччкай яна ўважліва паглядзела на мніха, які быў зьмітрэнжаны ў сваіх малітвах.

– Гэтая сьцежка нікуды не вядзе, кабета, – сказаў ён ёй. – Адкуль ты ідзеш?

– З Усходу, як ранак, – сказала маладая кабета. – А што ты гэтуль робіш, стары мніх?

– Я замураваў у гэтым гроце апошніх німфаў, якія пустошылі край, – сказаў мніх. – А перад уваходам у пячору я пабудаваў капліччку, праз якую яны не ўцякуць, бо голыя і на свой капыл баяцца бога. Я чакаю, пакуль яны памруць ад галадоўлі і халоды ў сваёй пустцы, тады боскі мір запануе на палетках.

– Хто сказаў табе, што боскі спакой не распаўсюджваецца на ніфмаў, як на аляніцаў ці статак казлоў? – адказала маладая кабета. – Ці ня ведаеш ты, што ў часіны стварэньня

бог забыў даць крылы некаторым анёлам, якія зваліся на зямлю і пасяліліся ў лясох, дзе стварылі расу німфаў і панаў? А іншыя пасяліліся на гары, дзе сталіся алімпійскімі багамі. Не ўсхваляй, як паганцы, істоту на шкоду Творцу, але і ня будзь таксама скандалізаваным ягоным стварэньнем. І дзякуй богу ў сваім сэрцы за тое, што ён стварыў Дыяну і Апалёна.

– Мой розум не сягае так высока, – сказаў пакорна стары мніх. – Німфы мітрэнжаць маю паству і пагражаюць яе выратаваньню, за якое я адказны перад богам. Вось чаму я буду перасьледваць іх, калі спатрэбіцца, аж да пекла.

– І гэтая адданасьць табе залічыцца, справядлівы мніх, – сказала з усьмешкай маладая кабета. Але хіба ня бачыш ты сродку захаваць жыцьці німфаў і выратаваць сваю паству?

Ейны голас быў мяккім, мэрам музыка флейты. Усхваляваны мніх апусьціў галаву. Маладая кабета паклала яму руку на плячо і сказала паважна:

– Мніх, дай мне ўвайсьці ў гэтую пячору. Я люблю іх і мне шкада тых, хто шукае ў іх

прытулку. У пячоры я нарадзіла сваё дзіця і ў ёй я даверыла яго сьмерці, каб ён зьведаў другое нараджэньне – Уваскрасеньне.

Анакарэт пасунуўся, каб даць прайсьці ёй. Без ваганьняў яна накіравалася да ўваходу ў пустку, схаванага за алтаром. Вялікі крыж заступаў парог; яна лёгка пасунула яго, як уласную рэч, і праслізнула ў пячору.

У сутоньні пачуліся гострыя стогны, цвырканьні і нешта накшталт шараваньня крылаў. Маладая кабета размаўляла з німфамі на невядомай мове, якая была, мабыць, мовай птушак і анёлаў. Нарэшце яна зноўку зьявілася ля мніха, які бязупынна маліўся.

– Паглядзі, мніх, – сказала яна, – і слухай.

Шматлікія маленькія пранізьлівыя крыкі сыходзілі спадыспаду ейнага паліто. Яна рассунула крысы і мніх Тэрапіён пабачыў, што яна несла ў складках сваёй сукні сотні маладых ластавак. Яна раскінула шырока рукі, як кабета ў жагнаньні, і дала птушкам палёт. Затым яна сказала – ейны голас быў сьветлым, як гук арфы:

– Ляціце, мае дзеці.

Вызваленыя ластаўкі ляцелі ў вечаровыя нябёсы, малявалі дзюбамі і крыламі невытлу-

мачальныя знакі. Стары і маладая кабета сачылі пэўны момант за імі вачыма, затым падарожніца сказала самотніку:

– Яны будуць вяртацца штогод, і ты дасі ім прытулак у маёй царкве. Бывай, Тэрапіён.

І Марыя пайшла па сьцежцы, якая нікуды не вяла, жанчына, якой малаважна, што шляхі завяршаюцца, бо яна ведае, як шпацыраваць па нябёсах. Мніх Тэрапіён спусьціўся ў вёску, а назаўтра, калі ён вярнуўся адправіць імшу, пячора Німфаў была поўная гнёздаў ластавак. Яны вярталіся штогод; яны лёталі туды-сюды ў царкве, занятыя кармленьнем сваіх маленькіх ці ўмацаваньнем сваіх гліняных хатак і часьцяком мніх Тэрапіён спыняўся ў сваіх жагнаньнях, каб пасачыць з замілаваньнем на іх любоў і гульню, бо тое, што забаронена німфам, дазволена ластаўкам.